НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
№ 28 (913) 29 ліпеня 2015 www.nn.by
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

**Святлана Алексіевіч вярнулася з Расіі з апакаліптычнымі ўражаннямі:**
Дай бог, каб мы ацалелі ў гэтым рускім нацыяналізме

Старонка 7.



**Падпішыся сам, падпішы дзядоў!**
«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.

# Выбары ёсць, а выбару няма
## Ірына Халіп заклікала Анатоля Лябедзьку зняцца

Скончыўся першы тыдзень збору подпісаў за магчымых кандыдатаў у прэзідэнты. Электаральныя кампаніі — рэдкая магчымасць вольна карыстацца нацыянальнымі сімваламі на вуліцах гарадоў. Пад бел-чырвона-белым сцягам подпісы збіраюць Анатоль Лябедзька і Тацяна Караткевіч.

Не сказаць, каб за апазіцыйных кандыдатаў распісваліся горай, чым за Лукашэнку. Журналісты ставілі відэакамеры і фіксавалі: за апазіцыю на суседніх пікетах падпісваюцца больш.

Разам з тым істотна зменшылася колькасць сяброў ініцыятыўных груп праціўнікаў улады. Калі параўнаць з выбарамі 2006 года, дзе таксама былі два асноўныя апазіцыйныя кандыдаты, дык тады ў камандзе Мілінкевіча было 5100 чалавек, а ў Казуліна — 3300. Цяпер жа ў Караткевіч — 1800, у Лябедзькі — крыху менш за 1000. Усё меншая колькасць людзей верыць, што з дапамогай выбараў можна змяніць сітуацыю ў краіне.

Працяг на старонцы 3.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Адзін дзень з Анатолем Лябедзькам

Карэспандэнт «НН» з'ездзіў з кандыдатам у прэзідэнты ў Салігорск. Старонка 4.

## Перад выбарамі пенсіянерам даплацяць па 133 тысячы рублёў

Аляксандр Лукашэнка даручыў знайсці магчымасць павышэння пенсій з 1 верасня.

Раней меркавалася, што пенсіі вырастуць з 1 жніўня, аднак свабодных грошай у бюджэце няма.

Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна патлумачыла, што заробкі не растуць, таму і паступленні ў фонд сацабароны ідуць павольней. У выніку апошнія паўгода пенсіі не пераразлічваліся.

Паводле статыстыкі, сярэдняя пенсія па стане на май складала 2 660 тыс. рублёў ($186 ці 166 еўра ў эквіваленце).

5%-ая прыбаўка азначае, што пенсіі ў сярэднім вырастуць на 133 тысячы рублёў.

**Ягор Марціновіч**

**…А ў крызіснай Грэцыі пенсія — 833 еўра**

У эфіры «Контураў» на АНТ вядучы, каментуючы павышэнне пенсій, адзначыў, што ва Украіне памер дапамогі старым яшчэ меншы. Іншыя краіны ён, вядома ж, не ўзгадаў. Колькі там атрымліваюць пенсіянеры?

Пачнём з суседняй Расіі. Па стане на май 2015 сярэдняя пенсія складала $240, яна на чвэрць большая за беларускую.

А што на Захадзе? Літоўцы ў маі атрымалі па 242 еўра пенсіі, латвійцы — па 272 еўра. Сярэдні польскі пенсіянер атрымлівае 504 еўра, славацкі — 408 еўра.

Калі вырвацца з постсацыялістычнай прасторы, лічбы растуць яшчэ і яшчэ. У Грэцыі — той самай, якая сутыкнулася з найскладанейшым крызісам, — пенсіі апусціліся да 833 еўра. У Іспаніі, Францыі дапамога старым грамадзянам перавышае 1000 еўра.

**«Падпішыся за Улаховіча!» — «Пайшоў ён на ***, я яго 20 гадоў ведаю»**

Як на Камароўскім рынку ў Мінску збіраліся подпісы за кандыдата-атамана. Старонка 5.

## Шэкспіраўская трагедыя ў вёсцы пад Магілёвам

Муж забіў жонку і… Старонка 11.

## Крыжовы паход князя Вітаўта

Невядомыя старонкі беларускай гісторыі. Старонка 13.

## Эпоха на лістках календара

Кажаце, нічога не мяняецца? Прачытайце, што пісаў Максім Танк у дзённіках 30, 40 і 50 гадоў таму. Старонка 14.

# Вольга Мікалайчык атрымала прэмію імя Віктара Івашкевіча



Лідары партыі БНФ і грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» ўручылі нацыянальную прэмію за абарону правоў чалавека імя Віктара Івашкевіча кінарэжысёрцы Вользе Мікалайчык.

Мікалайчык нястомна дапамагае палітвязням і іх сем'ям. Яна таксама падтрымлівае ўсе выступы ў абарону незалежнасці Беларусі, нягледзячы на арышты і штрафы.

Мікалайчык была адной з нямногіх, хто пратэставаў супраць прыезду ў Беларусь прапуцінскіх байкераў з «Начных ваўкоў». Яна рупілася, каб на магіле загіблага на Майдане Міхаіла Жызнеўскага з'явіўся помнік. У Мікалайчык сапраўды вялікае сэрца, дзе месца хапае ўсім добрым людзям.

Віктар Івашкевіч — герой руху за незалежнасць. Пачынаў з «Майстроўні», быў сябрам Партыі БНФ, рэдактара газеты «Рабочы», удзельнікам і арганізатарам шматлікіх акцый пратэсту. Ён памёр у кастрычніку 2013 года.

# За паўтары хвіліны 32 мацюкі

**Ганебная стэнаграма** размовы ў адным з РАУС Мінскай вобласці.

Падчас падрыхтоўкі матэрыялу «Еўрарадыё» звярнулася ў адзін з раённых аддзелаў МУС Мінскай вобласці па каментар. Журналістам паабяцалі паклікаць да тэлефона неабходнага супрацоўніка, паклалі слухаўку на стол і нібыта пайшлі па яго. Але, мяркуючы па ўсім, па яго так ніхто і не пайшоў.

Больш як пяць хвілін журналісты слухалі размову міліцыянтаў, якія знаходзіліся ў пакоі з тэлефонам.

Праваахоўнікі расказвалі гісторыю пра дзвюх бабулек. Адна з іх, зайшоўшы ў госці да другой, набрала сабе 100 грамаў маліны, а другая заявіла ў міліцыю пра крадзеж. Супрацоўнікі РАУС смяюцца з недарэчнасці заявы, бо сума шкоды не перавышае 1000 рублёў.

Пры гэтым размова так аздоблена лаянкавымі выразамі, што даволі складана разабраць сутнасць самой гісторыі. На 140 звычайных словаў прыпадае 32 мацерныя. То бок мат супрацоўнікі РАУС ужываюць праз кожныя 4—5 словаў.

— Похищено 100 граммов малины. 100 грамм, бл..ь! Составляем протокол, бл..ь! Ущерб составляет 1000 рублей, нах..! Приносят (прозвішча супрацоўніка), а он им: «Вы что ох..ели! За это, бл..ь, миллион штрафа, нах..й, давать, бл..ь! Давай назад, бл..ь. Пускай переопрашивает, бл..ь, прекращает!» А (яшчэ адно прозвішча супрацоўніка) пришел, бл..ь: «Ё.. твою мать, да там, бл..ь, там х..вая, бл..ь!» А там, короче, зашла, бл..ь, бабка какая-то к бабке, нах.., и нарвала этой малины, бл..ь.

— То же самое, как в Смолки (імя і прозвішча супрацоўніка) ехал. Возле гаража камни лежали, бл..ь. Он взял. А ему там что-то надо было ё..нуть, толи колесо пробил, толи что. Поднял. (Хтосьці) увидел там... бл..ь: «Оперуполномоченный (прозвішча) украл у меня, бл..ь, три камня, бл..ь!» Оценили эти камни, бл..ь, из серии там 0,0.. рубля стоимость, бл..ь,

— Ну и (першае прозвішча) опрашивает их, бл..ь: «Оцените, причинен существенный ущерб или нет?» Они: «Для меня 1000 рублей — это существенный вред, бл..ь!» Я говорю: «А сколько у нее пенсия?» — «2.5 миллиона». Говорю: «Ох..нно существенно, бл..ь!» Она, наверное, когда спички покупает в магазине, бл..ь, наверное, очень переживает и расстраивается, бл..ь нах..: «О, бл..ь! Существенный ущерб!»

Паводле Адміністрацыйнага кодэкса нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы (РАУС лічыцца такім) з'яўляецца дробным хуліганствам і караецца штрафам у памеры ад 2 да 30 базавых велічыняў ці адміністрацыйным арыштам.

Менавіта па гэтым артыкуле звычайна судзяць удзельнікаў мітынгаў ды апазіцыйных актывістаў.

**«Еўрарадыё»**



## BISS абвяшчае конкурс на вакансію акадэмічнага дырэктара

**Акадэмічны дырэктар выконвае наступныя асноўныя функцыі:**
1. Кіраўніцтва падрыхтоўкай, планаваннем і каардынацыяй даследчых і аналітычных праграм BISS;
2. Распрацоўка акадэмічных стандартаў публікацый BISS, працэдур кантролю іх якасці;
3. Забеспячэнне праграмнай інтэграцыі розных інстытуцыйных праектаў, у прыватнасці даследаванняў, рэгулярнай аналітыкі, праекта РЭФОРУМ і інш.;
4. Упраўленне прадстаўніцтвам BISS на навуковых і экспертных пляцоўках;
5. Кіраўніцтва падрыхтоўкай кніг, артыкулаў, аналітычных запісак, публіцыстычных матэрыялаў BISS;
6. Кіраўніцтва працай стыпендыятаў, стажораў, іншых удзельнікаў даследаванняў і праграм

**Кваліфікацыйныя патрабаванні:**
Наяўнасць навуковай ступені ў галіне сацыяльных навук. Перавага будзе аддадзеная кандыдатам з заходняй ступенню PhD.
Мінімальнае патрабаванне — абароненая кандыдацкая дысертацыя.
Як мінімум пяцігадовы вопыт акадэмічнай працы або працы ў даследчых інстытутах і think-tanks.
Свабоднае валоданне (магчымасць свабодна зносіцца, пісаць навуковыя матэрыялы, рэдагаваць, перакладаць з/на) беларускай, рускай і англійскай мовамі.
Экспертыза ў «беларускай тэматыцы»: палітыка, эканоміка, грамадства.

**Зацікаўленыя кандыдаты павінны даслаць:**
поўнае акадэмічнае CV;
матывацыйны ліст;
кароткі план развіцця BISS, уключаючы магчымыя асноўныя напрамкі даследаванняў (да 3 старонак тэксту) на адрас info@belinstitute.eu да 13 жніўня 2015 года. Заяўкі, дасланыя пасля 13 жніўня, прымацца не будуць.
Рашэнне па выбары кандыдата будзе прынята да канца верасня.

# Сярэдні заробак вырас да 6,9 мільёна, але ўпаў да $450

Паводле звестак Белстата, у чэрвені 2015 года сярэдні заробак павялічыўся да 6 883 700 рублёў. За месяц кожны беларус пабагацеў на 196 200 рублёў.

Аднак курс даляра за месяц рос нашмат хутчэй за заробак.

У выніку сярэдні заробак склаў $451 у даляравым эквіваленце. За месяц лічба зменшылася на $16.

Пры гэтым, паводле падлікаў Белстата, у Мінску заробак дасягнуў 9 398 004 рублёў ($615).

Сярэдні заробак вылічваецца як агульная сума заробкаў, падзеленая на ўсіх работнікаў. Больш справядлівай ацэнкай дабрабыту ў краіне з'яўляецца медыянны заробак. Палова работнікаў зарабляе менш за гэтую лічбу, палова — больш. Паводле даследавання за май 2015, медыянны заробак складаў $315 «чыстымі».

**ЯМ**

### Рэкамендуем

**Беларуская ядзерная зброя, Лукашэнка пад «Пагоняй»…**

*Associated Press* выклала маштабны архіў відэа. Глядзіце на **nn.by**

### Апытанне на nn.by

**А Вы ўмееце касіць?**

| | | |
|---|---|---|
| Так, касой | 960 | 60% |
| Не | 209 | 13% |
| Толькі трымерам і газонакасілкай | 234 | 15% |
| Умею «касіць» ад работы | 201 | 13% |

Прагаласавала 1604 чалавекі

### Самае чытанае на nn.by за 22—28 ліпеня

1 Разам з кім Лукашэнка і Дэпард'ё касілі траву?

2 «Падпішыся за Улаховіча!» — «Пайшоў ён на ***, я яго 20 гадоў ведаю»

3 Чаму «ініцыятыўная група» Лукашэнкі — анамалія

4 АНТ пайшло ў атаку на Лябедзьку: «Гэтае непарнакапытнае занесла на прахадную МТЗ»

5 Пікеты за Лукашэнку, Караткевіч, Лябедзьку, Цярэшчанку: як у Мінску праходзіць збор подпісаў

6 Ваенны эксперт: Расія рыхтуецца да вялікай сусветнай вайны, даты вызначаныя

7 Гімнасцёрка-купальнік расійскага плыўца павесяліла інтэрнэт

8 Каб падпісацца за Лукашэнку, людзі стаяць у міні-чэргах

9 Гомельскі епіскап Стэфан пераканаў дзяўчыну не скакаць з моста

10 У чыю гульню трапіла Жанна Раманоўская? Пяць фактаў пра кандыдатку ў прэзідэнты

# Дылема Анатоля Лябедзькі

## Здымацца ці не здымацца

Праця́г са старонкі 1.

За кандыдатаў з масоўкі — Гайдукевіч, Цярэшчанка, Улаховіч — амаль ніхто не распісваецца **(старонка 5)**. Яны проста ствараюць бачнасць выбару, як гэта робіцца ў сярэднеазіяцкіх дыктатурах.

Лукашэнкаўскія пікеты самыя масавыя, найбольш друкаванай прадукцыі. На выбары скупіцца не трэба. Сам Лукашэнка робіць выгляд, што ён па-за ўсёй гэтай выбарчай мітуснёй, але гонку ён пачаў. Гэта і касьба з Дэпардʼё, і абяцанне павысіць пенсіі перад кастрычнікам.

Улада падыходзіць да сёлетніх выбараў, маючы далёка не бліскучыя дасягненні ў эканоміцы. За апошнюю пяцігодку так і не атрымалася зрабіць чарговы рывок у якасці жыцця. Сярэдні заробак з 2010 да 2015 планавалі падняць да 1000 даляраў, а ён замест гэтага абваліўся амаль на 80 даляраў. Прапаганда вінаваціць сусветны крызіс, але за пяць гадоў інфляцыя і дэвальвацыя ў Беларусі былі самымі высокімі ў Еўропе.

Нават дзяржаўныя сацыёлагі з ІАЦ прызнаюць, што галоўны непакой у жыхароў Беларусі выклікае рост цэн (аж 75%!) і зніжэнне рэальных даходаў (46%).

Варта адзначыць, што Анатоль Лябедзька — гэта адзіны прэтэндэнт, якога пачалі мачыць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Ёсць ужо два прыклады. На тэлеканале АНТ адыёзны прапагандыст Аляксей Міхальчанка сказаў: «Любы паход Лябедзькі можна назваць «ход канём». 22 ліпеня гэтае непарнакапытнае занесла на прахадную МТЗ. Словы кіраўніка дзяржавы пра тое, што выбарцам будуць спрабаваць вешаць локшыну на вушы, — багаты палітычны вопыт. Доўга чакаць не давялося. 22 ліпеня іншы прэтэндэнт, Анатоль Лябедзька, адправіўся да прахадной МТЗ».

Газета Адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия» таксама не адзначаецца празмернай любоўю да старшыні АГП. У матэрыяле пра збор подпісаў «СБ» адзначае, што распісваюцца за Калякіна, за Караткевіч, а вось за Лябедзьку — не. Маўляў, толькі алкашы за грошы гатовыя паставіць свой аўтограф. Такі прапагандысцкі метад.

З падобных матэрыялаў можна зразумець, што на сёння менавіта Лябедзька зʼяўляецца найбольш непажаданым для ўлады кандыдатам.

Караткевіч ужо сказала, што клікаць людзей у вечар выбараў на Плошчу не будзе. Лябедзька пакуль таксама не кліча, але кажа, што сітуацыя можа змяніцца ў любы момант. І хай сёння Плошча падаецца немагчымай, ніхто не ведае, што здарыцца заўтра.



**28 ліпеня каля ГУМа Абʼяднаная грамадзянская партыя правяла пікет салідарнасці з палітвязнямі і сваякамі зніклых палітыкаў. Пікет выклікаў нервовую рэакцыю ўладаў. На яго прыйшоў намеснік старшыні выбарчай камісіі Цэнтральнага раёна Мінска Барыс Кручкоў і дзясятак сілавікоў у цывільным.**

У такой сітуацыі журналістка Ірына Халіп (жонка Андрэя Саннікава) заклікала Анатоля Лябедзьку зняцца з выбарчай гонкі, каб не дапамагаць у легітымізацыі сённяшняй улады.

Вось перад такой дылемай сёння стаіць галоўны апазіцыйны кандыдат.

У сваю чаргу, палітвязень Мікалай Статкевіч з турмы называе тактыку байкоту ў наяўных умовах малаэфектыўнай і заклікае выкарыстоўваць выбары, каб праяўляць любыя акты грамадзянскага супраціву. «Я заклікаю тых, хто прыйдзе альбо будзе вымушаны прыйсці на выбарчыя ўчасткі, напісаць сваё пасланне ў бюлетэні для галасавання, якое б дакладна сведчыла аб непрыманні палітыкі кіроўнага рэжыму. Упэўнены, што калі гэты сігнал будзе масавым, ён дойдзе да адрасата», — адзначыў у лісце на волю Статкевіч.

**Зміцер Панкавец**

## Чаму «ініцыятыўная група» Лукашэнкі — анамалія

Цэнтрвыбаркам апублікаваў спісы ініцыятыўных груп кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Гэта пералік тых людзей, якія на працягу месяца будуць стаяць у пікетах і хадзіць па кватэрах, каб сабраць неабходныя 100 тысяч подпісаў.

Сярод актывістаў мала вядомых асобаў, аднак нават сухія лічбы даюць выдатную карціну беларускага палітычнага жыцця.

У ініцыятыўнай групе Аляксандра Лукашэнкі 10 430 чалавек. Як яны набіраліся — невядома, бо абвесткі аб пошуку актывістаў не публікаваліся ў адкрытым доступе. Таямніца раскрываецца пры аналізе гендарнай прыналежнасці сяброў ініцыятыўнай групы.

Сярод «прыхільнікаў» Лукашэнкі 8673 жанчыны і 1757 мужчын. Прапорцыя складае 83:17. У 2010 годзе назіралася падобная сітуацыя, 81:19. Гэта неймаверныя лічбы! Яны дапушчальныя толькі ў выпадку, калі кандыдат мае яркую гендарную праграму, напрыклад, прадстаўляе жаночую партыю.

Зрэшты, раўнютка такая прапорцыя мужчын і жанчын сустракаецца ў зборніку Белстата, прысвечанаму адукацыі. Сярод настаўнікаў у беларускіх сярэдніх школах працуе 83% жанчын і 17% мужчын. Супадзенне?

Напрыклад, сярод зборшчыкаў Анатоля Лябедзькі 62% мужчын, у Сяргея Гайдукевіча — 60%. У Сяргея Калякіна і Таццяны Караткевіч — па 57%. У Віктара Цярэшчанкі — 50,4%.

А што ж Мікалай Улаховіч, пра набор у ініцыятыўную групу якога не было вядома да апошняй хвіліны падачы дакументаў у ЦВК? Ягонае «Беларускае казацтва» — ушчэнт мужчынская арганізацыя, аднак у ініцыятыўнай групе лідара толькі 29% мужчын. Гэтая лічба куды бліжэй да паказчыкаў Лукашэнкі.

**Ягор Марціновіч**

**Доля мужчын і жанчын у ініцыятыўных групах**

| № | Кандыдат | Група | Доля мужчын | Доля жанчын |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аляксандр Лукашэнка | 10577 | 17% | 83% |
| 2 | Сяргей Гайдукевіч | 2481 | 60% | 40% |
| 3 | Таццяна Караткевіч | 1993 | 57% | 43% |
| 4 | Сяргей Калякін | 1510 | 57% | 43% |
| 5 | Мікалай Улаховіч | 1426 | 29% | 71% |
| 6 | Анатоль Лябедзька | 977 | 62% | 38% |
| 7 | Віктар Цярэшчанка | 946 | 50,4% | 49,6% |
| 8 | Жанна Раманоўская | 110 | 53% | 47% |

Меркаванне

## Мышы і мерцвякі

Піша **Ірына Халіп**.



Анатоль Лябедзька сваім удзелам у «выбарах» можа дамагчыся прызнання Лукашэнкі на Захадзе.

Вярнулася з адпачынку — а ў паветры выразна пахне мярцвячынай. Гэта Анатоль Лябедзька цягне са склепа нябожчыкаў, каб яны дапамаглі Аляксандру Лукашэнку стаць легітымным, а свету — упершыню за многія гады прызнаць вынікі «выбараў» і сказаць: усё, вось цяпер нарэшце Лукашэнка — не нейкі там узурпатар, а кіраўнік, які перамог у сумленным паядынку.

Сітуацыя да нядаўняга часу была яснай: усе палітычныя структуры апошнія пяць гадоў казалі пра немагчымасць удзелу ні ў якіх выбарчых кампаніях, пакуль у турмах застаюцца палітвязні. І Анатоль таксама: у 2012 годзе АГП за дзень прыняла рашэнне аб зняцці ўсіх кандыдатаў з выбараў у «палатку», паколькі за кратамі застаюцца палітвязні. А што, хіба сёлета сітуацыя змянілася?

Мікалай Статкевіч застаецца ў турме, Мікалаю Дзядку дадалі яшчэ год зняволення, Юрый Рубцоў пасля «хіміі» апынуўся ў СІЗА і атрымаў тэрмін. Вылучэнне Мікалая Статкевіча як спосаб паспрабаваць вызваліць яго з турмы — гэта зразумела. Менавіта для таго многія годныя людзі ўвайшлі ў яго ініцыятыўную групу. А раптам?.. Але групу Мікалая Статкевіча не зарэгістравалі. Затое зарэгістравалі столькі ўсякага народу, які выклікае адзіную асацыяцыю — з анекдотам пра ліліпутаў і мышэй. І на гэтым усе спробы Лукашэнкі выдаць тое, што адбываецца, за выбары павінны былі скончыцца. Ну хто з паважаючых сябе і радзіму беларусаў ірване ў адным забегу з мышамі? А хто ў свеце прызнае гэты забег нармальным спаборніцтвам?

І вось тут на дапамогу дыктатару прыходзіць Анатоль Лябедзька. Працягвае руку сяброўства: не дрэйф, я цябе падтрымаю ў гэтым забегу, я стану тым, хто сваёй прысутнасцюператворыць мышыную беганіну ў сапраўдны чэмпіянат, і нават самыя строгія міжнародныя суддзі не асмеляцца ўсумніцца ў тваім чэмпіёнстве.

Але аднаго Лябедзькі, трэба думаць, сцэнарыстам здалося мала. І вось ужо дастаюць са склепа нейкага Раманчука, чыё палітычнае жыццё скончылася 20 снежня 2010 г. сумнавядомым выступам на беларускім тэлебачанні і млявым поціскам рукі Лукашэнку. І цяпер гэты мярцвяк, ад якога смярдзіць, ахвотна раздае інтэрвʼю, у якіх распавядае, што той ўчынак быў — высокамаральным. Ён, аказваецца, ратаваў Анатоля. Ні больш ні менш. І выратаваў: Лябедзьку адзінага не асудзілі, а адпусцілі з мірам, і цяпер ён можа ўдзельнічаць у «выбарах» без усялякіх абмежаванняў, і наогул — у турме Анатоль пасядзеў, але крымінальнай справы, аказваецца, зусім і не было. Калі б хто-небудзь вельмі захацеў падставіць Анатоля Лябедзьку, лепшага спосабу не прыдумаць.

Так ужо атрымалася, што сёння Анатоль Лябедзька — адзіны, хто можа выцягнуць Лукашэнкаву «выбарчую кампанію» і дамагчыся прызнання дыктатара. Менавіта гэта ён цяпер і робіць. У той жа час менавіта Лябедзька можа канчаткова зламаць гульню Лукашэнкі, калі здыме сваю кандыдатуру. Таму што тады на тым бяздарным нацормарце застануцца толькі Лукашэнка і мышы — бо нават ката не зарэгістравалі. Цяпер жа на палатне — Лукашэнка, мышы і Лябедзька. Толік, ты там яўна лішні.

**Charter97.org (скарочана)**

Цытата

### «Пакіньце кіраўніка краіны танцаваць казацкія танцы!»

Уладзімір Някляеў заклікаў усіх сёлетніх кандыдатаў зняцца і «пакінуць дзейнага кіраўніка краіны танцаваць казацкія танцы».

«Капітуляцыя дэмакратычнай апазіцыі і падыгрыванне Еўропы аўтаматычна перадаюць нас у самыя цесныя абдымкі Расіі», — сказаў ён.

«Спадзяванні на дэмакратычную заходнюю супольнасць у мяне не страчаныя. Вызваленне палітвязняў павінна быць галоўнай умовай прысутнасці на выбарах міжнародных назіральнікаў. Ёсць палітвязні — няма чаго сюды ехаць глядзець, і адтуль відаць, што яны ёсць», — заявіў Някляеў.

**УШ**

# Адзін дзень з Анатолем Лябедзькам

Карэспандэнт «Нашай Нівы» з’ездзіў з кандыдатам у прэзідэнты **ў Салігорск**.



Шэрая раніца нечакана пераўтварылася ў сапраўдны летні дзень: глейкі, спякотны і млявы. Паабапал трасы Р-23 жоўтае жыта, у якім вялікімі павольнымі насякомымі паўзуць камбайны. Разам са старшынёй АГП Анатолем Лябедзькам мы едзем у Салігорск, дзе ён плануе перадаць неабходныя матэрыялы сваім актывістам і раздаць пэўную колькасць улётак.

Выязджаем позна, амаль апоўдні. Лябедзька едзе без каманды, адзін, на ўласным аўто. Тлумачыць гэта тым, што працы цяпер шмат, дарма адцягваць людзей будзе памылкай.

Па дарозе Лябедзька расказвае, чаму накіроўваецца менавіта ў беларускую калійную сталіцу: «У нас ёсць дзве мэтавыя групы, тыя, на каго мы робім стаўку, каб сабраць сто тысяч подпісаў: гэта прадпрымальнікі і работнікі прадпрыемстваў, асабліва буйных, дзе ёсць праблемы».

У Салігорску Лябедзька збіраецца наведаць рынак і завітаць на прахадную «Беларуськалія». Цікаўлюся, ці ёсць сэнс ісці да шахцёраў: зарабляюць яны няблага.

«Вось і паглядзім», — адказвае Анатоль.

У горадзе мы сустракаемся з Віктарам Малочкам, старшынёй Мінскай абласной арганізацыі АГП. Перагружаем яму ў машыну частку ўлётак, спецыяльны «мальберт», на якім будзе размешчаны плакат падчас пікетаў.

Затым накіроўваемся ў кавярню падсілкавацца. Па дарозе Малочка заводзіць нас у мясцовую краму, дзе ў «кішэнях» паўпустога рэкламнага стэнда тырчаць улёткі АГП і некалькі асобнікаў «Народнай Волі», у якой надрукавана інтэрв’ю з Анатолем Лябедзькам. Праўда, прызнае Віктар, разбіраюць гэтую агітпрадукцыю не вельмі ахвотна.

У кавярні да нас далучаецца праваабаронца Леанід Мархотка, сябар АГП, прадстаўнік Беларускага хельсінкскага камітэта. Пэўны час абмяркоўваюцца планы па назіранні за выбарамі, ідзе гутарка аб тым, як трэба ладзіць пікеты па зборы подпісаў.

«Вось «Гавары праўду!» скардзіліся, што забаранілі некалькі іхніх пікетаў. Не трэба ўвогуле ісці па дазвол, — кажа Лябедзька. — Мы плануем граць па сваім сцэнары. Выстаўляем пікеты самі».

Затым едзем на найбуйнейшы мясцовы рынак. Для індывідуальных прадпрымальнікаў у АГП гатовыя адмысловыя ўлёткі: на іх з аднаго боку вялікі партрэт Лябедзькі, з другога — апісанне яго прапаноў пад назвай «Пяць крокаў насустрач ІП». У прыватнасці, старшыня АГП хоча, каб дзяржава прадала іпэшнікам па астаткавай цане гандлёвыя і офісныя плошчы, калі ІП арандаваў іх больш за тры гады. Таксама прапануецца адмяніць абавязковую сертыфікацыю і суправаджальныя дакументы на тавары, замест падаткаў увесці гадавы патэнт, увесці трохгадовы мараторый на праверкі і адмяніць падаткі на зарплату (то бок адлічэнні ў ФСАН).

Што ж, паглядзім, як на гэта адрэагуе «мэтавая аўдыторыя».




**Кожны рух Лябедзькі ў Салігорску запісваў на камеру невядомы чалавек.**

На рынку Лябедзька і Малочка бяруць па стосе ўлётак і праходзяцца па гандлёвых кропках. Раздачу ўлётак лідар АГП праводзіць імкліва.

«Добры дзень! Вазьміце інфармацыю да прэзідэнцкай кампаніі! Потым прыйдзем па ваш голас!»

Наступная кропка.

«Добры дзень! Пачытайце да прэзідэнцкай кампаніі, калі спадабаецца, падтрымаеце сваім голасам!»

Рынак выглядае сумна — многа зачыненых павільёнаў. Пытаюся ў адной з прадавачак, ці сапраўды не ўсе перанеслі крызіс. Аказваецца, справа зусім не ў гэтым.

«Гэта ж рынак, тут працоўны дзень амаль скончыўся — ужо палова трэцяй гадзіны. Трэба было раней прыходзіць, былі б людзі», — тлумачыць жанчына.

Тым часам Анатоль Лябедзька працягвае раздачу ўлётак.

Народ рэагуе па-рознаму. Хтосьці кажа: «Прагаласуем толькі за вас». Хтосьці ўвогуле цікавіцца: «А што, ужо выбары?» Але ад улётак ніхто не адмаўляецца, бяруць, большасць нават ахвотна. Часам паміж будучым кандыдатам і прадпрымальнікамі завязваецца гутарка.

«І што вы нам прапануеце?»

Лябедзька коратка пераказвае змест улёткі. «Мы з вамі адной крыві, трэба аб’ядноўвацца. Калі вас знішчаць, то і нас усіх знішчаць, — дадае ён. — Дробны бізнэс павінен быць сярэднім класам».

Само сабой, з ім пагаджаюцца.

Адна з жанчын пачынае гучна скардзіцца, што развалілі Савецкі Саюз.

«Дзе было нашае пакаленне, калі яго развальвалі? — пытаецца яна. — Жылі б цяпер як белыя людзі!»

Лябедзька не згодны. Прыводзіць у прыклад Еўропу. Жанчына стаіць на сваім.

«Польшча ў Еўропе ж*пу мые і сантэхнічае!» — кажа яна.

Лябедзька адказвае, што сёння мільён беларусаў займаецца ў Расіі прыкладна тым жа.

«У Расіі ж*пу не мыюць, у Расіі — працуюць!» — упэўненая жанчына.

На развітанне Лябедзька зычыць жанчыне плённай працы і таксама — пазбавіцца ад настальгіі і нармальна жыць у сучаснасці.

«Ага, хто нам дасць? — мармыча тая яму ў спіну. — Ходзяць тут, бл***...»

Увесь час, пакуль мы на рынку, на прыстойнай адлегласці за намі ідзе акуратна апрануты малады чалавек з маленькай відэакамерай. Спачатку ён хаваецца за павільёнамі, выстаўляючы з-за кута камеру, потым, убачыўшы, што яго заўважылі, ходзіць ужо ў адкрытую.

Падыходжу да яго і пытаюся, хто ён і што робіць. Малады чалавек сцвярджае, што ён вартаўнік.

«Гляджу, што вы здымаеце, і таксама здымаю, на ўсякі выпадак», — кажа ён.

Заўважаю ў яго адну з лябедзькаўскіх улётак. Пытаюся: «Як улётачка?»

«Нармальна, — кажа «вартаўнік». — А ў вас як справы?»

«Паціху», — адказваю я.

Тым часам зачыняюцца ўжо амаль усе гандлёвыя кропкі. Лябедзька прызнае, што трэба было прыехаць хаця б на паўгадзіны раней. Вырашае, што на наступны дзень астатнім улёткі раздасць Віктар Малочка.

На выхадзе з рынку Анатоля Лябедзьку спыняюць журналісты мясцовага тэлеканала. Ён расказвае ім пра сваю праграму, тлумачыць, навошта прыехаў у Салігорск. Затым выказвае спадзеў, што інтэрв’ю выйдзе: маўляў, у мінулы раз ягоны каментар на мясцовым ТБ так і не з’явіўся. Журналісты абяцаюць, што ў гэты раз усё будзе як след.

Затым развітваемся з Леанідам Мархоткам і Віктарам Малочкам і едзем на «Беларуськалій», у Другое рудаўпраўленне — там хутка якраз скончыцца змена. Адмысловыя ўлёткі падрыхтавалі і для рабочых, праўда, надрукаваць іх яшчэ не паспелі, таму Лябедзька выцягвае з багажніка велізарны стос газет «Народная Воля» са сваім інтэрв’ю. Трошкі чакае, пакуль народ пойдзе, і ўстае побач з прахадной.

«Спецвыпуск «Народнай Волі» да прэзідэнцкай кампаніі, калі ласка!» — прыгаворвае Лябедзька.

Газеты разбіраюць хутка. Праз дзесяць хвілін амаль сто асобнікаў ужо разышлося. Узяць нумар адмаўляліся літаральна адзінкі, шмат хто падыходзіў па газету сам. Невядома, ці пазналі калійшчыкі старшыню АГП, але абышліся без пытанняў і лішніх словаў — моўчкі бралі газету і ішлі далей. Толькі адзін дзядзька радасна ўскрыкнуў: «О, таварыш Лябедзька!», і яны з Анатолем паціснулі адзін аднаму рукі.

Усё, праца ў Салігорску скончаная. Можна вяртацца ў Мінск. Пакуль я дазваляю сабе цыгарэтку перад дарогай, Лябедзька бярэ з машыны свае антыкарупцыйныя ўлёткі і робіць яшчэ кола па тэрыторыі перад прахадной.

Увечары ў старшыні АГП запланавана яшчэ некалькі сустрэч у сталіцы. На наступны дзень ён плануе зладзіць прэзентацыю сваёй праграмы і прэс-канферэнцыю непасрэдна перад прахадной Мінскага трактарнага завода.

**Улад Швядовіч,**
**Салігорск — Мінск**

# «Падпішыся за Улаховіча!» — «Пайшоў ён на ***, я яго 20 гадоў ведаю»

Як на Камароўскім рынку ў Мінску збіраліся подпісы за **кандыдата-атамана**.

«Цікава, а гэта яшчэ што за «ражаныя»?» — пытаецца мужчына, які спыніўся каля стэнда прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Мікалая Улаховіча.

«Ражаныя» — гэта клоўны. А я вам магу паказваць пасведчанне», — адказвае зборшчык, апрануты ў форму з лампасамі. «Пасведчанне каго?» — «Казака беларускага. Зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі». — «У Беларусі ёсць казакі? Ніколі не было».

Казакі Улаховіча пачынаюць тлумачыць: «У 1654 годзе праваслаўны князь Паклонскі...» — «Гэта вы адкуль узялі, з гісторыі «государства расійскага»? — рагоча мінчук. — Вы тут заўтра стаяць будзеце? Я кнігу па гісторыі прынясу».

У пацвярджэнне сувязі Беларусі і казацтва гучыць імя Ермака, адкрывальніка Сібіры.

«Прабачце, а што, Ярмак з Беларусі ішоў?» — удакладняе дама, якая праходзіла міма.

«Ваяваў пад Магілёвам, — адказваюць ёй. — Калі вы хочаце ведаць гісторыю, тут была Лівонская вайна, стаялі два войскі. Ярмак устаў і сказаў: «Браты, хопіць забіваць адзін аднаго. Ёсць яшчэ землі неасвоеныя». І звёў казакоў адсюль».

Даведаўшыся, што цікаўная жанчына — выкладчыца гісторыі, казак выказвае прэтэнзіі супольнасці гісторыкаў: «Чаго Ягайлу, які здрадзіў праваслаўнай веры, узвысілі? І нават з Вітаўта хочуць зрабіць каталіка. А ён па жыцці быў праваслаўным».

Пад канец размовы жанчына даведваецца, што атаман Улаховіч ідзе ў прэзідэнты. «Мамачкі мае, стаяць як жабракі! У Амерыцы ідзе Трамп балатавацца, дык ён жа мільярдэр! А навошта мне такі прэзідэнт? — паказвае яна на Улаховіча. — У нейкай кашулі, у нейкіх штанах...»

Атаман, у адрозненне ад сваёй групы падтрымкі, у дыскусіі ўступае рэдка. Рэй вядзе кіраўнік ягонай ініцыятыўнай групы Міхаіл Вобразаў, адзін з кіраўнікоў «Белай Русі». Калі трэба, кліча атамана паказацца народу.

«Вы ж палкоўнік?» — пытаецца ва Улаховіча патэнцыйны выбаршчык. «Палкоўнік... — незадаволена хмыкае той. — Казацкі генерал! Ну, і палкоўнік савецкага войска».

«Пчолка, вы падыходзьце, пачытайце», — звяртаецца Вобразаў да жанчыны ў жоўта-чорнай сукенцы. «Пчолка» вывучае біяграфію кандыдата, які нядаўна ўладкаваўся ў мінскае аддзяленне каапсаюза, аднак падпісвацца не наважваецца.

«А якая ваша мэта?» — не разумее сталы мужчына. «Мір, спакой і парадак», — паказвае Вобразаў на перадвыбарны слоган свайго лідара і пачынае тлумачыць на пальцах:

– Вось вы ходзіце спакойна з пакецікам, а ў Данецку што? Вось вы даўно былі ў Данецку?

– І хто там ваюе? — падключаецца да размовы іншы мужчына.

– Ворагі ваююць. Грамадзянская вайна там, дарагая мая! Ой, дарагі мой, — адказвае Вобразаў.

– А хто пастаўляе зброю гэтым... — спрабуе ўдакладніць суразмоўца.

– А вы што, пастаўшчык? Вы спытайце, там праз акіян далёка, — перабівае яго Вобразаў.


**Зборшчыца сядзела адна, дый да яе мала хто звяртаўся.**

– Прычым тут акіян? Праз мяжу спакойна пастаўляюць!

Дыскусія пераскоквае на тэму, дзе жывецца лепш, у Беларусі ці Латвіі, і затухае.

«Не хочаце за нашага атамана прагаласаваць? Ой, то бок пакінуць голас», — заклікае адзіная ў групе жанчына. Патэнцыйны падпісант адмахваецца ад прапановы. «Не? Ну і дарма. Я б за атамана падпісалася, нават калі б яго не ведала», — супакойвае сябе зборшчыца.

Ад раніцы подпісаў нягуста. У яе бланках усяго 11 чалавек. За тыя паўгадзіны, што давялося правесці каля казакоў, падпісалася толькі адна ахвотная.

З крытага рынку выходзіць стары знаёмы Вобразава з жонкай. «Падпішыся за Улаховіча!» — прапануе кіраўнік штаба. «Ды пайшоў ён на ***, я ж яго 20 гадоў ведаю!» — шчыра адказвае знаёмы. Абодва рагочуць.

«Дык ты пішаш ці як?» — раптам падступае да мяне адзін з кампаньёнаў Улаховіча. «Чакаю, каб хоць хто за вас падпісаўся», — тлумачу агітатару. «Чакаеш? Ну дык адыдзі, калі ласка. Чакай у іншым месцы!» — «Вы сур'ёзна?» — не разумею я. «Сур'ёзна. Не пішы і не фатаграфуй. Таму што трэба ў мяне спытаць дазвол. Табе ніхто не даў права здымаць», — працягвае наступаць ражаны казак. «У нас свабодная краіна!» — марна спрабуе давесці яму мужчына, які слухае дыялог.

«Цішэй-цішэй-цішэй», — падбягае да месца канфлікту Вобразаў і адцягвае ўбок агрэсіўнага падначаленага. «Прабачце, можа, сонца прыпякло», — тлумачыць ён паводзіны казака.

**Ягор Марціновіч**

## Прэтэндэнт-канцэртмайстар не збірае подпісы

***Жанна Раманоўская*** — самая дзіўная ўдзельніца сёлетніх выбараў.

Да збору подпісаў прыступілі 7 з 8 прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Маўчанне захоўвае толькі ініцыятыўная група Жанны Раманоўскай.

Як высветлілася, кандыдатка нарадзілася ў Брэсце, ёй 48 гадоў. Яе маці — паслушніца Брэсцкай епархіі. Дый у самой Раманоўскай прамовы, апублікаваныя ў інтэрнэце, сканчваюцца рэлігійнымі зваротамі.

Прэтэндэнтка вывучылася на канцэртмайстра і педагога-псіхолага.

Раманоўская кажа, што ёй прапаноўвалі ўзначаліць адну з брэсцкіх школ, аднак яна «адказала адмовай у сувязі з бюракратызмам у сістэме адукацыі».

Што да праграмы дзеянняў, то яна збіраецца змагацца з карупцыяй і бюракратызмам у вертыкалі ўлады, бо на сваім досведзе сутыкнулася з праблемамі ў сферы жыллёвага будаўніцтва. «Я выступаю за аптымізацыю падаткаў і шырокую падтрымку малога і сярэдняга бізнэсу», — кажа Раманоўская. Што да знешняй палітыкі, то яе словы надзвычай агульныя: «за шматвектарныя адносіны з Расіяй, Еўрасаюзам і ўсёй сусветнай супольнасцю».

Кіраўнік яе штаба — сталічны актывіст Яўген Напорка, які працуе ў аўтобусным парку. Некалькі гадоў таму яго аштрафавалі за тое, што выйшаў на лёгкаатлетычнае спаборніцтва ў майцы ў падтрымку палітвязня Міколы Статкевіча. Напорка трымае сувязь з Раманоўскай толькі праз інтэрнэт.

У ініцыятыўнай групе налічваецца ўсяго 107 чалавек, сярод іх шмат сваякоў прэтэндэнткі. «Актывісты» прызнаюцца, што подпісы не збіраюць. «Проста праз знаёмых папрасілі запісацца ў нейкую групу», — тлумачыць удзельнік выбарчага фарсу.

Пакуль уся актыўнасць Раманоўскай звялася да адкрыцця рахунка для ахвяраванняў на яе выбарчы фонд.

Навошта жанчына рэгістравалася ў Цэнтрвыбаркаме? Адразу некалькі крыніц паведамілі «НН», што Раманоўская павінна была зняцца на карысць Таццяны Караткевіч.

«Яна прыходзіла недзе з паўгода-год таму, казала, што збіраецца пайсці ў прэзідэнты. Але на гэтым усё і скончылася», — расказвае старшыня «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў. Ён запэўнівае, што не падтрымлівае кантактаў са штабам Раманоўскай, аднак у сацыяльных сетках перапісваецца з кіраўніком ініцыятыўнай групы.

**ЯМ**

## «Навошта выбіраць? Трэба каранаваць! Не — выбарам»

Мінскага таксіста Мікалая Лусту аштрафавалі за адзіночны пікет каля будынка Цэнтрвыбаркама. 24 ліпеня ён прыйшоў туды з плакатам «Навошта выбіраць? Трэба каранаваць! Не — выбарам!»

«Калі ўлада ставіць выбарцаў у няроўныя ўмовы, то непатрэбныя выбары, а патрэбная «каранацыя». Прысвячаю акцыю Міколу Статкевічу — папярэдняму кандыдату ў прэзідэнты, які дагэтуль знаходзіцца ў турме і з'яўляецца палітычным вязнем», — заявіў ён.





Акцыя працягвалася меней за хвіліну. Да Мікалая Лусты адразу падышоў ахоўнік і адвёў яго ў будынак ЦВК.

Актывіста завезлі на Акрэсціна, дзе ён прабыў тры ночы. 27 ліпеня суддзя Таццяна Матыль асудзіла актывіста за «парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства» і аштрафавала на 25 базавых велічынь.

**ЯМ**

## Давыдзька прапануе забараніць хаджэнні па кватэрах

Старшыня «Белтэлерадыёкампаніі» Генадзь Давыдзька незадаволены працай валанцёраў на прэзідэнцкіх выбарах. Пра гэта ён расказаў у эфіры тэлеканала «Беларусь-1».

«Я прыйшоў з працы, распрануўся, намазаў бутэрброд, уключыў тэлевізар. І раптам званок у дзверы. Я думаю: можа, сусед прыйшоў доўг вярнуць? Я апранаюся, выходжу. Стаіць абсалютна незнаёмы чалавек: «Добры дзень! Пастаўце, калі ласка, подпіс за вылучэнне...» Мяне ён ужо раздражняе! Ён уварваўся ў маю прастору, ён парушыў гарачыню майго чаю», — абурыўся Давыдзька.

«У прынцыпе я быў бы за тое, каб адмяніць гэтыя хаджэнні па кватэрах, — прапанаваў ён. — Гэта парушэнне майго спакою, недатыкальнасці майго прыватнага часу».

**ЯМ**

# Суддзі з Таджыкістана выдалі ўчастак каля Драздоў за $20 на год

Цяпер Файзула Абдулоеў прадае **недабудаваны катэдж за $265 тысяч.**

Чыноўнікі і набліжаныя да ўлады асобы рэдка прадаюць надзелы ў элітных сталічных раёнах, такіх як Драздры, Вяснінка, Ржавец. Гэтую зямлю яны атрымалі на звышвыгадных умовах ці ў падарунак і трымаюцца за статуснае месца.

### Аб'ява з Вілейскай

На сайтах агенцтваў нерухомасці з'явілася аб'ява аб продажы недабудаванага катэджа на вуліцы Вілейскай. Гэта раён за «Мінск-Арэнай», тут жыве банкаўская эліта: Пятро Пракаповіч, першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, старшыня Нацбанка Павел Калаўр. Побач — алімпійская чэмпіёны. Непадалёку дабудоўваецца дом, куды, кажуць, мае засяліцца беглы кіргізскі лідар Курманбек Бакіеў. Карацей, кампанія падабралася вельмі прыстойная.

Побач стаіць той самы выстаўлены на продаж катэдж 68-гадовага суддзі Файзулы Абдулоевіча Абдулоева. Як грамадзянін Таджыкістана займеў элітную нерухомасць?

### Міжнароднае супрацоўніцтва

Беларусь — сябар многіх міждзяржаўных утварэнняў на постсавецкай прасторы. СНД, АДКБ, Мытны саюз, ЕўрАзЭС... Кожная з гэтых арганізацый мае свае бюракратычныя структуры, некаторыя з іх размяшчаюцца ў Беларусі.

Штаб-кватэру Эканамічнага суда СНД вырашылі зрабіць у Мінску. Адпаведна краіны-ўдзельніцы прысылаюць сваіх прадстаўнікоў у нашу краіну. Беларусь абавязаная даць ім службовае жыллё. Для гэтых мэтаў выдзеленыя кватэры «Дыпсэрвіса» ў шматпавярховіках на вуліцы Чырвонаармейскай.

У 2004 годзе Таджыкістан змяніў свайго прадстаўніка пры Эканамічным судзе. Ім стаў першы намеснік міністра юстыцыі Таджыкістана Файзула Абдулоеў.

Цікава, што яго ны папярэднік, Хайдархуджа Талібаў, вырашыў застацца ў Беларусі. Ён уладкаваўся адвакатам у адну з юрыдычных кансультацый Мінска.

З цягам часу Абдулоева абралі старшынёй Эканамічнага суда СНД. Чым займалася арганізацыя пад яго кіраўніцтвам? Па словах самога суддзі, перадусім тлумачыла палажэнні заканадаўчых актаў СНД. Па зваротах дзяржаў было разгледжана толькі дзевяць спрэчак.

Інтэграцыя на постсавецкай прасторы працягвае развівацца, і ў снежні 2011 года з'явілася новае ўтварэнне — Эканамічны суд ЕўрАзЭС. Абдулоева перавялі туды працаваць адным з васьмі суддзяў.

І менавіта ў гэтыя дні беларускія ўлады вырашылі зрабіць яму дзіўны падарунак.

### Нявыгадная дамова

Файзула Абдулоеў і Мінгарвыканкам заключылі арэндную дамову (глядзі фота) на ўчастак на вуліцы Вілейскай. Паводле дакумента, грамадзянін Таджыкістана браў на 98 гадоў надзел памерам 12,75 соткі.

Кадастравая цана гэтай зямлі складае $205 тысяч. І гэта толькі афіцыйная цана, рынкавы кошт нашмат большы.

А вось Абдулоеў, паводле дакумента, плаціць усяго 344 250 рублёў на год. Заключаная дамова звышнявыгадная для бюджэту. На момант падпісання дакумента гэта было каля $40, у эквіваленце, па цяперашнім курсе — каля $23. З кожнай наступнай дэвальвацыяй сума меншае.

Аднак у любым выпадку прэтэндаваць на ўчастак суддзя не мог. Па агульным правіле, вызначаным прэзідэнцкім указам «Аб канфіскацыі і перадачы зямельных участкаў», зямля пад будаўніцтва выдзяляецца па выніках аўкцыёнаў. У Мінску выключэнне зроблена толькі для шматдзетных сем'яў, якім зямля можа выдавацца без таргоў.

Што праўда, Файзула Абдулоеў — насамрэч шматдзетны бацька. Паводле афіцыйнай біяграфіі, у яго 8 дзяцей і 25 унукаў. Але ж ён грамадзянін Таджыкістана, а не Беларусі! І нейкім чынам абскакаў усё чаргу ахвотных будавацца беларусаў.

### Непатрэбны катэдж

Атрымаўшы зямлю, суддзя павольна пачаў будаўніцтва. Павольна — бо за два з паловай года гатоўнасць дома складае ўсяго 27%. Выкладзены толькі першы паверх, дый той не накрыты. Файзула Абдулоеў страціў інтарэс да будоўлі і вырашыў прадаць яе.

На сайтах агенцтваў нерухомасці за недаробленны катэдж просяць $265 тысяч. Цана ніжэйшая за прапановы суседніх дамоў, бо зямля застаецца ва ўласнасці дзяржавы. Рыэлтар, якая вядзе продаж, прызнаецца, што прыватызаваць участак будзе надзвычай складана. Таму новы гаспадар застанецца з дамовай арэнды.

Цана гатовага збудавання на «сваёй» зямлі ў гэтым раёне даходзіла б да $1 мільёна.

Аднак для Файзулы Абдулоева гісторыя ў любым выпадку выгадная. На яго радзіме сярэдні заробак «чыстымі» складае $123 — гэта найгоршы паказчык на постсавецкай прасторы. Сярэдні таджык на той дом, які прадае суддзя ЕўрАзЭС, павінен зарабляць 180 гадоў.

Ягор Марціновіч

**Файзула Абдулоеў**

Нарадзіўся ў кішлаку Кангурт Хатлонскай вобласці Таджыкістана. Скончыў юрыдычны факультэт Таджыкскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у судовай сферы (1976—1990), быў міністрам юстыцыі (1990—1993), старшынёй Вышэйшага эканамічнага суда (1995—1996) і Канстытуцыйнага суда (1996—2000).

Суддзя Эканамічнага суда СНД (2004—2011), яго старшыня (2008—2011). Суддзя Эканамічнага суда ЕўрАзЭС (з 2011).



Будоўля даўно закансерваваная.


Так дом мусіў выглядаць паводле праекта


...ственной регистрации: 30.12.2011 12:...

Право аренды
Описание права, ограничения (обременения) прав: индивидуальное право (право одного лица), площадь 0.1275 га
Идентификационные сведения о правообладателе: Абдуллоев Файзулло, 30.10.1946, гражданство - Республика Таджикистан, г. Минск, ул. [illegible]
Доля: 1/1
Срок действия: с 30.12.2012 по 31.12.2110
Стоимость обязательств или данные о порядке и условиях ее определения: 344250 BYR (годовая арендная плата)
Дата государственной регистрации: 30.12.2011 12:55:12
Основание государственной регистрации: Договор аренды (Минский ...одской исполнительный комитет) от 30.12.2011 №129/11:160 ...мельного участка № 2851-ф от26.12.2011


Файзула Абдулоеў.

Працяг тэмы

# Жарко таксама не аскет



Міністр аховы здароўя мае **апартаменты ў Драздах.**

Пасля публікацыі ў «Нашай Ніве» гісторыі жыцця міністра аховы здароўя Васіля Жарко («Па слядах Пастаялкі» ў №22 за 10 чэрвеня 2015 года) у Рэдакцыю звярнуўся чытач. «Дзе ж жыве шаноўны спадар міністр? Няўжо яму не падарылі дом у Драздах?» — запытаўся ён.

Жарко насамрэч жыве ў Драздах, але не ў катэджы, а ў апартаментах. На жонку міністра зарэгістраваная вялізная трохпакаёўка, плошчай 123 м², на вуліцы Піянерскай, самай дарагой у Беларусі

Кампанія «Трэст Прамбуд» у пачатку 2010-х узвяла тут тры дамкі, па 16 кватэр у кожным. Адкрытага продажу гэтай нерухомасці не было, таму невядома, колькі заплаціла за жыллё сям'я Жарко.

Можна толькі ацаніць — кватэру такой самай плошчы іх суседзі (дарэчы, таксама медыкі) купілі ў іпатэку. Крэдытная дамова была заключаная больш чым на 700 мільярдаў рублёў. На момант афармлення гэта было каля $320 тысяч.

Жыллё ў доме Жарко прадаецца па $4100—4200 за квадратны метр. Такім чынам, рынкавая цана кватэры міністра перавышае паўмільёна долараў.

ЯМ



# Святлана Алексіевіч: Дай бог, каб мы ацалелі ў гэтым рускім нацыяналізме

«У нас у Беларусі сваіх шмат праблем, але калі прыязджаеш з Расіі, то разумееш, што **не ўсё так страшна**».

На расійскім сайце «Свабодная прэса» днямі з'явіўся паклёпніцкі артыкул «Колькі каштуе нянавісць да Расіі» з нападкамі на беларускую пісьменніцу Святлану Алексіевіч. Аўтар — нехта «Уладзімір Бандарэнка» — абвінавачвае Алексіевіч у нянавісці да Расіі, рускага народа, праваслаўнай царквы.

Мы патэлефанавалі пісьменніцы, каб спытацца, што стаіць за гэтай публікацыяй, а таксама пагаварыць крыху аб сённяшняй Расіі.

**«Наша Ніва»: Святлана Аляксандраўна, ці чыталі Вы артыкул у «Свабоднай прэсе»?**

**Святлана Алексіевіч:** Так, мне даслалі спасылку. Ведаеце, я толькі вярнулася з Волагды, там шведы здымаюць фільм пра мяне, мы ездзілі ў чароўныя храмы... Але тая цемра, якую паднялі з чалавечых душаў — гэта было вельмі цяжкое ўражанне. Таму для мяне гэтая публікацыя як працяг паездкі ў Расію — тое самае. Нават няма ахвоты пра гэта гаварыць.

**«НН»: Мабыць, Вы звярнулі ўвагу, што шэф-рэдактарам «Свабоднай прэсы» з'яўляецца вядомы расійскі пісьменнік Захар Прылепін?**

**СА:** Мы ж усе ведаем, ува што пераўтварыўся Прылепін. Гэта такі сучасны Дзям'ян Бедны — прыдворны барзапісец. Усім зразумела, хто ён такі.

**«НН»: Не ўзнікала праблем падчас сустрэч у Расіі?**

**СА:** Ведаеце, поўная зала людзей. Трэба было бачыць, як засланых казачкоў публіка прымушала замаўчаць. Але шведам не далі здымаць, а ФСБ здымала.

Прыходзім, камера стаіць, пытаемся, што за яна. Туды-сюды, стала вядома, з якой гэта арганізацыі. А шведам не далі, бо я такая нядобранадзейная, яшчэ скажу што не тое.

Людзі там баяцца размаўляць па тэлефоне, але кажуць «крымнаш», «крымнаш», «Данецк — руская зямля». Увесь набор стэрэатыпаў.

У нас у Беларусі сваіх шмат праблем, але калі прыязджаеш з Расіі, то разумееш, што не ўсё так страшна. Людзі ў нас нейк вальней выказваюцца, такія рэчы не гавораць.

**«НН»: Нават эфэсбэшнікаў на Вас накіроўвалі?**

**СА:** Ну так, пару такіх хлопцаў працавалі, але з імі [публіка] хутка разабралася. І яны замаўчалі. Рабілі сваю працу, але моўчкі.

**«НН»: У матэрыяле Вас абвінавачваюць, што Вы «заігрываеце з колішнім ворагам Лукашэнкам, спрабуючы нацкаваць яго на Расію».**

**СА:** Дурасць якая. Нібыта Лукашэнку можна на некага нацкаваць і ён гэта слухае. Ой, ну што за дурасці.

Мы маем справу з рускім нацыяналізмам, вельмі небяспечным. Мне вельмі шкада, што ён паражае і таленавітых людзей, як той жа Прылепін.

Таленавітыя людзі, але невядома, куды іх завядзе нацыяналізм, чым гэта ўсё скончыцца. Нават страшнавата размаўляць з людзьмі. Паўтараюць толькі і «крымнаш», і «данбаснаш», і Адэсу несправядліва падарылі. І гэта вельмі розныя людзі. 86% прыхільнікаў Пуціна — гэта рэальная лічба. Бо многія рускія людзі проста замаўчалі. Яны напалоханыя, як і мы, тыя, хто знаходзіцца вакол гэтай аграмаднай Расіі.

**«НН»: Як Вы лічыце, чаму яны цяпер вырашылі цкаваць Вас?**



**СА:** Набліжаецца рашэнне Нобелеўскага камітэта. Ім не хацелася б, каб чалавек з маленькай Беларусі перамог. Мне хтосьці з маладых рускіх нацыяналістаў казаў, што варта зайсці на сайт Алексіевіч, пабачыць, што ў яе больш за 150 выданняў па ўсім свеце, каб пачаць яе ненавідзець, а разам з ёй усю гэтую маленькую Беларусь. Мне тлумачылі, што Беларусь — гэта ніякая не Беларусь, а Украіна — таксама не дзяржава, і моў беларускай і ўкраінскай няма.

Яны не могуць уплываць на прыняцце рашэнняў Нобелеўскім камітэтам, але падымаюць усю гэтую цемру. Увогуле ж, цёмнага шмат у народзе, і падняць гэтую цемру вельмі проста.

**«НН»: Якія ўвогуле ўражанні пакінула ў Вас паездка ў Расію?**

**СА:** Руская зямля ўражвае. Мы жылі нашай групай у манастыры ў Кірылаве. Гэта такія старажытныя сцены! Гэта проста неймаверна, як у такой дзікай прасторы такое магло быць пабудавана. Гэта робіць каласальнае ўражанне — кантраст паміж гэтай сілай духу і тым, калі чалавек пачынае гаварыць. Гэты кантраст мяне проста збіваў з ног. Ферапонтава — аграмадны манастырскі комплекс на беразе возера — гэта неймаверна. І едзеш, як гэтыя комплексы ідуць адзін за адным. І разам з тым страшна пагаварыць з чалавекам. Бог і Пуцін — абсалютна забароненыя тэмы. Калі раней гучала «Слава КПСС», то цяпер гэтыя праваслаўныя лозунгі... Я вярнулася са складаным адчуваннем. Пасля развалу імперыі, мабыць, нацыяналізм — гэта перыяд, які нацыя абавязкова мусіць прайсці. І дай бог, каб мы ацалелі ў гэтым рускім нацыяналізме.

**«НН»: Могуць там сказаць «Беларусьнаша»?**

**СА:** Там толькі так і мысляць. Нават з простым чалавекам пачынаеш размаўляць, ён табе кажа: «Ну, Святлана, ну перастаньце, хіба ёсць украінская мова? А пра беларускую вы ўвогуле маўчыце. Ну якая гэта дзяржава? Вам проста выдзелілі надзел зямлі». Ой, вельмі цяжка. І гэта не значыць, што такое кажуць рабочыя. Кажуць і інтэлектуалы. Усе гэтыя Прылепіны, Шаргуновы. Так што дастаткова пачытаць гэтую «Свабодную прэсу», я троху пагартала, каб зразумець, як гэта жахліва. Ведаеце, як кажуць, што за шэрымі часамі прыходзяць чорныя. Як уявіш, хто выглядвае з-за плячэй гэтага Пуціна, то становіцца страшна.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




## Разам з кім Лукашэнка і Дэпард'ё касілі траву?

Аляксандр Лукашэнка прывёў французскага акцёра Жэрара Дэпард'ё на поле каля рэзідэнцыі ў Астрашыцкім Гарадку, каб навучыць яго навыкам касьбы.

Лукашэнка касіў не адзін, а разам са сваёй традыцыйнай «камандай». Каго можна было заўважыць за касьбой? Малодшага сына Мікалая Лукашэнку, доктарку кіраўніка краіны Святлану Канашэнка, тэніснага трэнера Сяргея Цяцерына, бізнэсмена Юрыя Чыжа, хакейнага трэнера Міхаіла Захарава, французскага прадзюсара Арно Фрыле, а таксама чалавека, падобнага да Мікалая Корбута (памочніка Лукашэнкі па Мінскай вобласці).

«Публічная» касьба, якая шырока асвятляецца ў дзяржаўных СМІ, мае на мэце падтрымліваць імідж Лукашэнкі як «свайго хлопца», які, хоць і займае высокую пасаду, не адрываецца ад зямлі.

Што тычыцца візіту Дэпард'ё ў Беларусь, то ён яшчэ адзначыўся сваім выказваннем у падтрымку падатку на «дармаедства». «Гэта выдатна!» — не хаваў радасці акцёр. Самае цікавае, што гэты самы чалавек падчас абмеркавання ў Францыі падатку на багацце памяняў грамадзянства на расійскае.

**ЯМ, ЗП**

## Міліцыянт прыйшоў у краму пацікавіцца бел-чырвона-белым сцягам

27 ліпеня, у дзень, калі была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі з бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй», краму *symbal.by* наведаў участковы міліцыянт. Ён цікавіўся якраз бел-чырвона-белым сцягам.

«Мужчына быў у цывільным, сказаў, што мясцовы ўчастковы. Ён паведаміў, што ў Маладзечне на футбольным стадыёне затрымалі хлопца з бчб-сцягам, які ў тлумачэннях расказаў, што набыў яго на *symbal.by*, — кажа Павел Белавус, уладальнік крамы. — У задачу ўчастковага ўваходзіла правесці праверку: хто прадаў забароненую сімволіку. Аб тым, што яна «забароненая», было напісана ў яго паперах. Я яму даў тлумачэнне, што сцягі мы прадаем афіцыйна, яны пашытыя ў Беларусі, па накладных, і прадаюцца праз інтэрнэт-краму, якая ўнесеная ў гандлёвы рээстр Беларусі. Пазіцыянуем сцяг як гістарычную сімволіку са статусам — дзяржаўны сцяг РБ з 1991 па 1995 год. І што ніякіх дакументаў, якія яго забараняюць ці прыраўноўваюць да забароненага, — няма».

Участковы склаў тлумачэнне і сышоў. Але Белавус вырашыў не пакідаць гэтае пытанне без адказу.

«У нас ёсць ідэя скласці запыты ў МУС, Акадэмію навук, Мінюст, каб яны афіцыйна патлумачылі сваё стаўленне да бчб-сцяга. Забаронены ён усё ж ці не? Бо на перадвыбарчых пікетах, мітынгах, якія дазваляе ўлада, сцягі нікому не перашкаджаюць, але часам усплываюць выпадкі, калі ў асобнага чалавека сцяг могуць чамусьці канфіскаваць. Трэба ўжо вызначыцца: калі забараняеце, дык прымайце адпаведны закон. Калі не — дык не трэба чапляцца да сцяга, які многія людзі лічаць сваёй нацыянальнай каштоўнасцю», — мяркуе Павел.

**Улад Швядовіч**

## БРСМ заклікае сваіх сяброў фатаграфавацца са «стужкай-вышыванкай»

Пралукашэнкаўская моладзевая арганізацыя пачынае **папулярызаваць нашэнне стужак** з нацыянальным арнаментам.

Ідэолагі заклікаюць рабіць здымкі са «стужкай-вышыванкай» і выстаўляць іх у інтэрнэт. У якасці альтэрнатывы прапануюцца чырвона-зялёныя стужкі.

Ініцыятарам акцыі «#беларускаястужка» была «Арт-сядзіба».

«За ўвесь час мы раздалі каля 10 кіламетраў стужкі. Апроч гэтага, шмат людзей і арганізацыяў самі куплялі стужку ў крамах і распаўсюджвалі яе, таму сапраўдныя маштабы ацаніць цяжка», — каментуе каардынатар «Арт-сядзібы» Мікіта Броўка.

«Мы рады таму, што нашу акцыю падхопліваюць усё больш і больш арганізацыяў. Калі БРСМ падтрымлівае нашу ідэю, то гэтаму можна толькі радавацца. Што наконт агітацыі да ўдзелу ў выбарах — асабіста я супраць таго, каб беларуская стужка асацыявалася з кандыдатамі на пасаду прэзідэнта і выбарамі ў Беларусі ўвогуле», — пераканаы Броўка.

**Ягор Марціновіч**

# Смартфоны і планшэты рэзка ўпадуць у цане

Але **не ў Беларусі**.



Сусветная гандлёвая арганізацыя (WTO) дамовілася аб паступовым скасаванні з 2016 года пошлін на высокатэхналагічную прадукцыю. Пагадненне было дасягнутае 18 ліпеня, пра што пісаў *Reuters*.

54 краіны-сябра WTO дамовіліся не браць мытныя зборы за смартфоны, планшэты, гульнявыя кансолі і яшчэ амаль дзве сотні найменняў хайтэк-тавараў. Тэхніка ў гэтых краінах мае патаннець. Праўда, сярод паўсотні краін няма Расіі ці Беларусі.

Абарот рынку высокатэхналагічных тавараў перавышае трыльён даляраў. Краіны, што падпісалі пагадненне (а гэта ЗША, Кітай, Японія, краіны Еўрапейскага Саюза і іншыя, агулам 90% сусветнага IT-рынку), страцяць немалыя грошы. Але маюць набыць больш: адмена пошлін выкліча падвышэнне тэмпаў росту высокатэхналагічнага сектару ды стварэнне новых працоўных месцаў. IT-гіганты падтрымалі рашэнне.

Расія не далучылася да пагаднення, пажадаўшы абараніць айчыннага вытворцу. Беларусь не ёсць сябрам WTO, але бярэ ўдзел у Мытным саюзе з Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам і Расіяй. Калі мы і адчуем падзенне цэн праз іх зніжэнне на Захадзе, яно будзе досыць невялікім праз уласныя мытныя зборы.

**Аляксандр Арсёнаў**




# Беларусь трапіла ў «групу смерці»

Нашай камандзе пашанцавала як тапельцу **пры лёсаванні** адбору да чэмпіянату свету — 2018.

25 ліпеня ў Санкт-Пецярбургу адбылося лёсаванне адборачных груп наступнага футбольнага мундыялю, які адбудзецца ў Расіі. Сваіх супернікаў даведаўся і Беларусь. Назваць гэтае жэрабя ўдалым для нас ніяк нельга. Некаторыя футбольныя эксперты нават назвалі нашу групу «групай смерці».

Маркуйце самі: у «шасцёрку» каманд разам з Беларуссю трапілі зборныя Галандыі, Францыі, Швецыі, Балгарыі і Люксембурга. Галоўны трэнер французаў Дзідзье Дэшам нават сказаў, што з трэцяга (Швецыя), чацвёртага (Балгарыя) і пятага (Беларусь) кошыкаў выпалі самыя моцныя з магчымых супернікаў.

«Не скажу, што я расчараваны. Так, дзесьці магло пашанцаваць болей, але маем дастаткова цікавы варыянт. Хаця група, безумоўна, адна з самых моцных. Аднак у мінулым мы перамагалі і галандцаў, і французаў», — сказаў галоўны трэнер нашай зборнай Аляксандр Хацкевіч.

Адбор да ЧС-2018 стартуе ў верасні 2016. Беларусы ў першай гульні будуць прымаць Францыю.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



**Гімнасцёрка-купальнік расійскага плыўца павесяліла інтэрнэт. Манерны Аляксандр Мальцаў у гімнасцёрцы выклікаў супярэчлівую рэакцыю.**

# Новым рэктарам каталіцкай семінарыі ў Пінску стаў беларус з-пад Ганцавіч

Рэктарам Міждыяцэзіяльнай найвышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску 25 ліпеня прызначаны ксёндз **Андрэй Рылка**.



Ксёндз Ян Саламон вызвалены ад абавязкаў рэктара на яго шматлікія просьбы біскупам Пінскім Антоніем Дзям'янкам па ўзгадненні з Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам і біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам, паведамляе сайт catholic.by.

Кс.Рылка родам з Люсіна Ганцавіцкага раёна, з роду, у якім былі таксама слуцкія паўстанцы БНР.

**АГ**

# Што сёння модна сярод мінскай моладзі? Здымкі нападпітку ў міліцэйскай форме бацькоў



VK.COM

На прасторах «УКантакце» ёсць суполка «Падслухана флэты Мінск», куды мінская моладзь залівае фоты і відэа з т.зв. «флэтаў» — масавых папоек з малазнаёмымі людзьмі.

Адзін з трэндаў — гэта фота ў бацькоўскай міліцэйскай форме. Аўтары, не хаваючы твараў, выкладаюць такія выявы ў агульны доступ, імаверна, не ведаючы пра наяўнасць у Адміністратыўным кодэксе Беларусі артыкула, які прадугледжвае адказнасць за нашэнне формы без права на тое.

**Арцём Гарбацэвіч**

**Фельетон**

# Голыя славянскія марксісткі

Віншую, таварышы! У Мінску на вуліцы Карла Маркса адкрыўся бар, дзе абслугоўваюць напаўголыя афіцыянткі. Называецца «Маямі».

Ад ахвотных працаваць не было адбою: далі абвестку ўкантакце, адбіралі па конкурсе.

Стаяць піроржныя на стойцы, ходзяць дзяўчаты ў трусах. Гэта будучыня Беларусі, сябры!



ONLINER.BY

Наперад, дэпутаты ад Камуністычнай партыі Беларусі, наперад на вуліцу імя свайго ідэолага, якую вы не дасцё перайменаваць!

Наперад, Гігін! Адпачыць — справа прынцыпу.

Піва там па 30 тысяч за куфаль. Але ў Маямі ж прынята піць не півас, а кактэйлі. Таму бярыце з сабой тысяч па 200. Праўправайце, каб было хоць тысяч 200 на вашых залатых крэдытках.

Асобна радуюся за міліцыянера, якога нанялі стаяць там на варце, каб хто, напіўшыся, не паваліў якую з гарсонак пад стол. Работа ў радасць!

Перападзе доля шчасця і мамам, і татам, і мужам афіцыянтак. Жанчыны будуць добрыя грошы дахаты прыносіць. А што? Чым гэта горш за тых, што аказваюць паслугі «суправаджэння» высокапастаўленых асобаў? Нічым.

«Бандароўна» — не ўзор нашага часу. Голыя бары даўно і паспяхова працуюць для турыстаў у Чэхіі і Гамбіі. А мы не з горшых.

Мы на гэта здольныя ў лепшай форме. Мы заўжды пераконвалі сябе, што нашы дзяўчаты — самыя прыгожыя ў свеце.

Калі ласка, мы іх вам прапануем.

**Мікола Бугай**

# Рыбныя стравы стануць брэндам Нарачанскага рэгіёна

Адпаведнае **даручэнне** даў старшыня Мінаблвыканкама **Сямён Шапіра** на выязным пасяджэнні па пытаннях развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна.

Сямён Шапіра звярнуў увагу, што Нарачанскі рэгіён вядомы сваімі воднымі рэсурсамі, і многія турысты едуць на курорт, у тым ліку каб пакаштаваць стравы з рыбы. «У меню ўсіх устаноў у курортнай зоне павінны быць рыбныя стравы», — даручыў ён.

Начальнік упраўлення гандлю і паслуг Мінаблвыканкама Таццяна Шаўцова расказала, што спецыялісты праінспектавалі ўжо мясцовыя крамы, кафэ і рэстараны, і практычна ва ўсіх з іх быў шырокі асартымент рыбнай прадукцыі. Паводле слоў Таццяны Шаўцовай, у многіх санаторыях цяпер праводзяцца рыбныя дні і дні беларускай кухні. Акрамя таго, дадаткова будуць арганізаваны гандлёвыя пляцоўкі, дзе турысты змогуць купіць жывую рыбу, каб потым прыгатаваць яе самастойна.

У Мядзельскім раёне завяршаецца рэалізацыя Дзяржаўнай праграмы развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна на 2011—2015 гады. Па выніках рэалізацыі дзяржпраграмы на базе курортнай зоны будзе створаны буйны аздараўленчы, культурна-забаўляльны і турыстычны цэнтр.

**БелТА**

# Сацыёлаг Алег Манаеў пабраўся шлюбам з Марынай Багдановіч



Гэта адбылося 18 ліпеня. Вяселле пара сыграла ў штаце Тэнэсі (ЗША).

Алег Манаеў — прафесар сацыялогіі. Яму 63 гады. Ад 1992 ён кіруе Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД). У 2005 Вярхоўны суд ліквідаваў НІСЭПД, з гэтага часу ўстанова зарэгістраваная ў Літве.

Марына Багдановіч у мінулым актывістка АГП. Яна ўдзельнічала ў галадоўцы дэпутацкай групы «Рэспубліка» ў 2004 годзе. Апошнія гады жыве за мяжой.

«Я думаю аб маім любімым мужу. Пра тое, што калі б я ведала, што сустрэну такога Мужчыну, як Алег, то ўсе свае 52 гады чакала толькі б яго. Проста чакала б. Любыя сяброўкі, сябры-мужчыны, паненкі і матроны, Мужчыны — з вялікай літары, як і каханне, — яны дакладна ёсць на нашай велізарнай зямлі. І нам не вядома, як Божачка распарадзіцца нашым лёсам. Не спяшайцеся. Адзін-адзіны і самы лепшы абавязкова з'явіцца ў вашым лёсе», — напісала Марына Багдановіча на старонцы ў фэйсбуку.

**Сямён Цыбульскі**

## Дзяўчына з Францыі самастойна перамагла ВІЧ?

Яна жыве ўжо 12 год без ВІЧ — і без лекаў.

Дзяўчына з Францыі нарадзілася з ВІЧ і, здаецца, перамагла вірус, хаця не прымала лекі апошнія 12 гадоў, піша BBC са спасылкай на даклад навукоўцаў на канферэнцыі Міжнароднага таварыства СНІД у Ванкуверы.

Упершыню ў гісторыі навукоўцы назіраюць доўгатэрміновую рэмісію ў дзіцяці без дапамогі лекаў — на сёння ў 18-гадовай дзяўчыны вірус знаходзіцца ў крыві, але ў вельмі нізкай канцэнтрацыі, і не распаўсюджваецца.

Дзяўчына атрымала ВІЧ ад маці. Ва ўзросце трох месяцаў ёй пачалі даваць антырэтравірусныя лекі, але лекаванне спынілі, калі ёй было 6 гадоў.

«Цалкам імаверна, што гэтая дзяўчына была ў вірусалагічнай рэмісіі так доўга, таму што яна атрымала камбінацыю антырэтравірусных лекаў вельмі хутка пасля пачатку інфекцыі», — тлумачыць доктар Асьер Саэс-Сірыён з Інстытута Пастэра ў Парыжы (Францыя).

Выпадкі «самастойнай» рэмісіі рэдкія, але не «неймаверныя». Два гады таму дзяўчына ў Амерыцы, якая стала вядомая як «Дзіця Місісіпі», нібы пазбавілася ад ВІЧ. Але ў яе выпадку рэмісія працягнулася толькі два гады пасля таго, як лекаванне было спыненае. Вядомая і група з 14 дарослых чалавек, «група Вісконці», у якіх не назіраецца развіццё віруса, за адным з іх назіраюць ужо цягам 13 год.

Выпадак француджанкі для дактароў значна больш цікавы: хворая ад нараджэння, 12 год без лекаў. Сёння яна жыве нармальным жыццём, кажуць дактары. Такое спалучэнне фактаў зафіксаванае ўпершыню. Навукоўцы кажуць аб ім як аб моцным аргуменце за самы ранні пачатак антырэтравіруснай тэрапіі і як аб штуршку да далейшых даследаванняў, што могуць даць у выніку эфектыўныя лекі ад ВІЧ.

**АА**

## Памёр знакаміты амерыканскі пісьменнік Эдгар Дактароу

Ён быў з сям'і эмігрантаў з Мінскай губерні.

Аўтар раманаў «Рэгтайм» і «Білі Батгейт» Эдгар Лорэнс Дактароу памёр у нью-ёркскай бальніцы на 85-м годзе жыцця. Прычынай смерці сталі ўскладненні, выкліканыя ракам лёгкага.

У сваіх творах Дактароу пераасэнсоўваў амерыканскі досвед, змяшчаючы выдуманых персанажаў у вядомы гістарычны кантэкст. «Гісторыя — гэта сапраўднае. Таму кожнае пакаленне піша яе нанова», — казаў ён.

Эдгар Дактароу нарадзіўся ў 1931 г. у Бронксе (Нью-Ёрку) у сям'і дзяцей яўрэйскіх эмігрантаў з Мінскай губерні.

За сваю 50-гадовую пісьменніцкую кар'еру Эдгар Лорэнс Дактароу напісаў 10 раманаў. Самыя вядомыя з іх: «Рэгтайм» (1975) — пра Нью-Ёрк пачатку XX стагоддзя і аб асэнсаванні амерыканскім грамадствам вытокаў сваёй сучаснай гісторыі, «Білі Батгейт» (1989) — пра Нью-Ёрк 1930-х і «Марш» (2005) — пра грамадзянскую вайну ў ЗША.

Ён таксама выдаў адну п'есу, два зборнікі кароткіх апавяданняў і шматлікія эсэ і каментары на тэму літаратуры і палітыкі.



У мінулым годзе, пры ўручэнні яму прэміі Бібліятэкі кангрэса ЗША ў галіне мастацкай літаратуры, Дактароу назвалі «амерыканскім Чарльзам Дзікенсам».

Прэзідэнт ЗША Барак Абама назваў Эдгара Лорэнса Дактароу «адным з найвялікшых амерыканскіх раманістаў». «Яго кнігі многаму мяне навучылі. Нам будзе яго бракаваць», — напісаў Абама ў твітары.

**Бі-бі-сі**

## Жывёлы і іх родныя мясціны: шыкоўныя карціны нарвежскага мастака



Андрэас Лі, мастак з Бергена (Нарвегія), стварыў серыю карцін, прысвечаных жывёлам і іх родным мясцінам.

Лі жыве недалёка ад ф'ёрдаў Хордалана, вакол якіх узвышаюцца сем лясістых гор. Прырода тых мясцін практычна не кранутая чалавекам. Краявіды радзімы натхнілі мастака спалучыць у карцінах пейзаж і партрэт жывёл.

У серыі можна пабачыць нямала жывёл, што водзяцца і ў Беларусі.

**Аляксандр Арсёнаў**

Фотафакт




**«Дынама» асфальтным каткам прайшлося па балгарах**

Мінскае «Дынама» паспяхова пераадолела другі кваліфікацыйны раўнд Лігі Еўропы. Беларусы каменя на камені не пакінулі ад балгарскага «Чорнага мора» — 4:0. Два галы ў матчы забіў чарнагорскі легіянер Фатас Бечырай (на фота). У наступным раўндзе мінчукі згуляюць з швейцарскім «Цюрыхам».

Прайшоў свайго суперніка і барысаўскі БАТЭ, які згуляў у Ірландыі 0:0 з «Дандалкам». Цяпер чэмпіёна Беларусі чакае венгерскі «Відэатон».

Кіно

## Pac-Man атакуе Зямлю

Пікселі
**Жанр:** фантастыка, камедыя, баявік.
**Рэжысёр:** Крыс Каламбус
**У ролях:** Адам Сэндлер, Кевін Джэймс, Мішэль Монахэн, Пітар Дзінклейдж, Джош Гад, Браян Кокс, Мэцью Лінц, Шон Бін
ЗША, 106 хв.
**Адзнака:** 5

У 1982 годзе, спадзеючыся ўсталяваць кантакт з іншаземнай цывілізацыяй, NASA запусціла інфармацыйную капсулу, якая змяшчае малюнкі і кадры зямнога жыцця і культуры. Тым не менш іншапланетнікі ўспрынялі пасланне як абвяшчэнне вайны і нападаюць на Зямлю, выкарыстоўваючы мадэлі з аркадных гульняў 80-х гадоў, уключаючы *Centipede*, *Pac-Man* і *Donkey Kong*. Прэзідэнт Уільям Купер звяртаецца да сваго сябра дзяцінства і чэмпіёна па аркадных гульнях Сэма Брэнера. А той вырашае сабраць групу рэтрагеймераў, каб супрацьстаяць прыхадням.

У аснову фільма лягла аднайменная кароткаметражная стужка французскага рэжысёра Патрыка Жана, у якой на Нью-Ёрк напалі персанажы знакамітых аркадных гульняў — ад *Pac-Man* да *Space Invaders*. Рэжысёр Крыс Каламбус (тры часткі «Гары Потэра» (2001, 2002, 2004)) і яго каманда ўпадабалі гэтую ідэю і вырашылі зняць поўнаметражны фільм.

«Вельмі вясёлы, займальны і па-сапраўднаму маштабны, фільм выглядае як класічны летні блокбастар. Сцэнар не падобны ні да якога іншага, наша стужка арыгінальная», — адзначыў Крыс.

Здымкі праходзілі ў Таронта (Канада) і занялі тры месяцы. Для здымак адшукалі сотні сапраўдных гульнявых аўтаматаў і кожны з іх быў адрамантаваны. Для кожнага аўтамата падбіралі патрэбныя налепкі, абнаўлялі кораб, усталёўвалі новыя вадкакрышталічныя дысплеі і іншае электроннае начынне. Перш чым патрапіць на здымачную пляцоўку, кожны гульнявы аўтамат павінен быў быць ухвалены кампаніяй, якая прадстаўляла на рынку адпаведную гандлёвую марку.




Настальгічнае кіно пра аркадныя гульні 80-х трапляе ў мэйнстрым, бо цікавасць да іх цяпер адраджаецца. Фільм спадабаецца найперш тым, хто марыць убачыць любімыя гульні ў новай якасці: у выглядзе ажылых захопнікаў Зямлі або сканструяваныя ў 3d-прасторы элементы інтэрфейсу. Астатнім жа давядзецца задаволіцца камічнымі персанажамі і няёмкімі сітуацыямі, бо асаблівай інтэлектуальнай нагрузкі фільм не нясе.

**Настасся Уласава**

# Памёр Андрэй Харкавец

23 ліпеня не стала экс-міністра фінансаў Андрэя Харкаўца. Апошні год жыцця ён, адышоўшы ад працы, змагаўся з хваробай.

Андрэй Харкавец нарадзіўся ў 1963 годзе ў Мінску. У 1985 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі, у 2006 годзе — Акадэмію кіравання. Ад 1985 года быў на розных пасадах у Міністэрстве фінансаў: ад старэйшага эканаміста да першага намесніка міністра. У 2008—2014 гадах працаваў міністрам фінансаў Беларусі.

Ад пасады ён быў вызвалены год таму, 21 ліпеня 2014. Былі звесткі, што Харкавец знаходзіўся на лячэнні ў адной з краін ЕС.

Пахавалі Андрэя Харкаўца на могілках пасёлка Ждановічы. На развітанне прыходзілі многія людзі, што працавалі з ім ва ўрадзе: Міхаіл Мясніковіч, Сяргей Румас, Андрэй Кабякоў, Уладзімір Ярмошын, Мар'яна Шчоткіна, Валерый Міцкевіч. Цікава, што на сайце Аляксандра Лукашэнкі так і не з'явілася спачуваннеў з прычыны смерці Харкаўца, не падпісаў ён і некралог у «Советской Белоруссіі».

**ЗП**



**Злева направа чатыры прэм'ер-міністры Беларусі на паніхідзе: Міхаіл Мясніковіч, Сяргей Сідорскі, Уладзімір Ярмошын, Андрэй Кабякоў.**

# «Не дазвольце зневажаць настаўнікаў!»

Праваабаронца-вясноўка Таццяна Равяка накіравала **зварот міністру адукацыі**.



У лісце да Міхаіла Жураўкова праваабаронца звяртае ўвагу на факты прымусу настаўнікаў да ўдзелу ў фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Тэкст ліста Таццяна Равяка размясціла на сваёй старонцы ў фэйсбуку:

«Міхаіл Анатолевіч, цяпер, як Вы ведаеце, ідзе кампанія выбараў прэзідэнта Беларусі. Распавяду Вам гісторыю адной настаўніцы з вельмі добрай менскай гімназіі. З сённяшняга дня, панядзелка, яна адкліканая з адпачынку на тыдзень, бо яе ўключылі (звяртаю ўвагу — уключылі, а не яна добраахвотна ўвайшла) у ініцыятыўную групу дзейнага прэзідэнта. Яна абавязаная сабраць 200 подпісаў.

Адзінае, чаго ўдалося ёй дамагчыся, — каб дазволілі не стаяць у пікетах, а збіраць подпісы па кватэрах. І гэта прытым што гэтая настаўніца ніколі не была прыхільніцай дзейнага прэзідэнта і ні разу за яго не галасавала.

Падчас мінулых выбараў у 2010 годзе гэтая настаўніца была ўключаная ва ўчастковую камісію. Галасавала яна за А. Саннікава і падчас падліку лічыла частку стосаў бюлетэняў за гэтага кандыдата. Налічыла 70, а калі ў выніковым пратаколе ўбачыла агульную лічбу 14, то абурылася і адмовілася яго падпісваць. Пратакол падпісалі за яе. А потым з ёй была сур'ёзная размова. Ёй наўпрост сказалі, што яе ўчынак — гэта не толькі яе адказнасць, але і завуча, і дырэктара, і што ў выпадку чаго яны таксама застануцца без працы.

А што такое застацца настаўніцы без працы, я магу распавесці на прыкладзе іншай былой ужо настаўніцы — Наталлі Ільініч, настаўніцы вышэйшай катэгорыі, якая 26 гадоў адпрацавала ў Талькаўскай сярэдняй школе і была звольненая ў пачатку 2011 года за ўдзел у ініцыятыўнай групе аднаго з альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты.

Міхаіл Анатолевіч, я была вельмі рада, калі ўбачыла, што Вы сталі міністрам адукацыі. Ваша імкненне да таго, каб беларуская сістэма адукацыі адпавядала еўрапейскім стандартам, лічу за вельмі добрае і перспектыўнае для будучыні краіны. І ўпэўненая, што такая будучыня не забяспечваецца сённяшнім страхам і запалохваннем супрацоўнікаў. Еўрапейскі стандарт — гэта перш за ўсё свабода думкі і плюралізм меркаванняў. Існая прэзідэнцкая кампанія — першая для Вас у якасці міністра, і ад вашай асабістай пазіцыі цяпер можа шмат залежаць. Не дазвольце зневажаць настаўнікаў.

P.S. Калі Вы палічыце патрэбным, я вас пазнаёмлю з настаўніцай, пра якую ідзе гаворка, пад гарантыі бяспекі яе асабіста і яе кіраўніцтва. І з Наталляй Ільініч таксама».

**In memoriam**

# Бывай, царыца са Старажоўкі…

Памерла **Рэгіна Дзмітрыеўна Бакуновіч**.

Паменела святла ў горадзе, у якім яна нарадзілася і пражыла ўсё жыццё. Звыш за паўстагоддзя — поруч з Валянцінам Тарасам, да ягонай апошняй хвіліны 13 лютага 2009 года... І вось надышла яе хвіліна, якую яна мужна чакала — чакала сустрэчы з мужам і, ад 2011-га, з сынам Віталём...

Ёй было 84. А ўпершыню я ўбачыў яе ў 1960-я на тэлеэкране ў якасці вядучай папулярнай праграмы «Алеся», якую яна і стварыла.

Пасля яна знікла з тэлеэкранаў. Людзі з таго пакалення памятаюць пра так званую «справу Вакулоўскай», пра пераслед з боку партыйных уладаў і КДБ яе ўдзельнікаў — пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў... У тым ліку Валянціна Тараса, якога забаранілі выдаваць. А Рэгіну Дзмітрыеўну звольнілі з тэлебачання. Яна мужна прайшла праз гэтае выпрабаванне.



**Рэгіна Бакуновіч з мужам Валянцінам Тарасам.**

Як і праз выпрабаванне вайной і нямецкай акупацыяй, якую яна сустрэла 10-гадовай дзяўчынкай і пра што ў свой час распавяла ў часопісе «Нёман». Нічога больш пранізлівага пра Мінск тых часоў я не чытаў...



Мне давялося сябраваць з Валянцінам Яфімавічам і Рэгінай Дзмітрыеўнай з 90-х. І мяне заўсёды ўражвала асаблівая цеплыня іхняга дома. Я б назваў яе цеплынёй мудрасці. Мудрасці стаўлення да жыцця, якая змяшчае ў сябе непрымальнасць да несправядлівасці і ўсялякага фальшу...

І аднача́сова — непадробны гумар, бясконцая дабрыня і вернасць сяброўству.

Пасля згаданай «справы Вакулоўскай» яна нікому не здрадзіла — ні мужу, ні сябрам, сярод якіх былі Васіль Быкаў, Навум Кіслік, Аляксандр Дракахруст, Рыгор Барадулін... Імёны, якія належаць не толькі мінуламу — будучыні...

Рэгіна ў перакладзе з лацінскай мовы — царыца...

Бывай, царыца з мінскай Старажоўкі! Хай побач з мужам і сынам будзе табе пухам зямля, якую ты так любіла.

**Сяргей Ваганаў**

# Украіна прызнала, што ў вайне на Данбасе загінула болей вайскоўцаў, чым раней паведамлялася: каля 2500

Такія лічбы на брыфінгу прывёў начальнік Упраўлення цывільна-вайсковага супрацоўніцтва Узброеных сіл Украіны Аляксей Наздрачоў, паведамляе агенцтва УНІАН.

Раней прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка называў лічбу 1670 загінулых. Чыноўнік Мінабароны дае больш трагічныя лічбы.

«На сённяшні дзень загінулых — каля 2300 вайскоўцаў, але сказаць, колькі прапала без вестак — вельмі цяжка, бо, паводле досведу, 40% з іх — гэта людзі, якія знаходзяцца ў палоне. Але мы яшчэ не вызначылі месца іх знаходжання. І каля 60% — гэта вайскоўцы, якія загінулі. Таму з 270 без вестак зніклых ваеннаслужачых мы лічым, што дзесьці 70–80 у палоне, а астатнія, на жаль, загінулі», — сказаў Наздрачоў.

Усяго ў часе баёў у Данбасе, паводле звестак мясцовых медыкаў, загінула каля 6500 чалавек. Мяркуючы па лічбе ахвяр, жаночага полу сярод іх каля 600, прыкладна 1200 чалавек з тых, што загінулі, былі мірнымі жыхарамі, астатнія ваявалі з аднаго ці другога боку.

Расійскія сілы паспрабавалі заняць Данбас у красавіку 2014-га. Аднак, у адрозненне ад Крыма, Украіна тут арганізавала супраціў. Украінскія войскі здолелі адбіць Славянск, Лісічанск і Марыупаль, аднак пацярпелі балючыя паразы пад Ілавайскам у жніўні 2014 і Дэбальцавам у лютым 2015.

**СМ**



**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе факты парушэння вашых правоў, нявыплату заробкаў, несправядлівасці. У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

**Skype: nashaniva**

# Шэкспіраўская трагедыя ў вёсцы пад Магілёвам

**Муж забіў жонку з палюбоўнікам, а затым здаўся міліцыі.**

Ад Магілёва вёску Палавінны Лог аддзяляе невялікі ўзгорак. Вёска даволі вялікая. Амаль палова яе — катэджы і дачы, неблагія цагляныя дамы. Але дагледжаныя нават старыя хаты — не гніюць і не развальваюцца.

«Усе старыя хаты — вёска, «свежыя» — дачнікі. У нас жа ўжо і газ, і вада, — кажуць мясцовыя жыхары. — Каб яшчэ асфальт паклалі ды маршрутку пусцілі...»

Пакуль сюды ездзіць толькі аўтобус, раз на тры гадзіны. Працэй дайсці пехатою. У вёсцы некалькі прадпрыемстваў — «каапературываў», як называюць іх мясцовыя. Вытворчасць дзвярэй, рамонт аўтамабіляў («Калгас усю зямлю распрадаў», — скардзіцца мне жанчына). Але па словах вяскоўцаў, народ працуе ў асноўным у горадзе.

### «Дык ён жа не ішоў забіваць»

17 ліпеня каля 22.00 у вёсцы здарылася бяда. 38-гадовы Аляксандр* забіў сваю 41-гадовую жонку Наталлю і яе 39-гадовага палюбоўніка Ігара, якіх заспеў падчас спаткання. Затым сам здаўся міліцыі.

«Як пасля расказаў падазраваны ў забойстве, яму патэлефанаваў знаёмы і паведаміў пра здраду жонкі, удакладніўшы, што тая з палюбоўнікам знаходзіцца ў доме сваёй маці. Мужчына адправіўся ў вёску да цешчы. Праз акно ён заўважыў жонку ў абдымках каханка. Адчыніў раму, залез у пакой і стаў збіваць суперніка, — кажа Аксана Салянюк, афіцыйны прадстаўнік УСК па Магілёўскай вобласці. — Збіў таксама і жонку, потым прыдушыў яе. Затым, калі зразумеў, што зрабіў, сам выклікаў і хуткую, і міліцыю».

Мужчына дрэнна памятаў дэталі таго, што адбылося, паведаміла Салянюк. Пасля ў яго крыві знайшлі алкаголь.

Пра нядаўняе забойства ў самой вёсцы ўсе ведаюць, але размаўляюць не вельмі ахвотна. Праўда, чуткі і плёткі ўжо паўзуць, множацца версіі. Народ рэагуе па-рознаму. Адныя вяскоўцы пераканыя, што не мела рацыі жонка. Маўляў, калі Наталля знайшла новага мужыка, трэба было спачатку разысціся з мужам. Але з другога боку, маркуюць, забіваць за такое — занадта. Праўда, пэўнае спачуванне Аляксандру выказваюць, кажучы: «Дык ён жа не ішоў забіваць».

Што тычыцца дэталяў, то мясцовыя тлумачаць — дастаткова ўзяць панятых з вёскі, каб усё ўсплыло. Пра таемнага знаёмага, які паведаміў пра палюбоўніка, вяскоўцы чулі. Яны ўпэўненыя: гэта зрабіла Вольга, былая мясцовая жыхарка, якая сапраўды ведала і Аляксандра, і яго жонку. Паводле іх версіі, яна прыязджала ў той дзень да брата, які жыве ў Палавінным Логу. А калі заходзіла ў аўтобус, то пабачыла Наталлю, якая разам з мужчынам з таго аўтобуса выходзіла. Пасля гэтага жанчына адразу патэлефанавала Аляксандру.

Вяскоўцы сцвярджаюць, што Аляксандр не хацеў прызнавацца міліцыі, адкуль ён даведаўся, дзе і з кім была жонка. Але на следчым эксперыменце ўсё ж сказаў, што яму пазваніла Вольга.

### «Мая курва ехала?»

«Яе тут усе ведаюць. Як яна будзе далей жыць? — кажа адзін з вяскоўцаў. — Адзін званок — мінус два жыцці...»

Знайсці Вольгу ўдалося. Так, і Аляксандра, і Наталлю яна ведала, і сапраўды ў той дзень яна бачыла Наталлю на прыпынку.

**«Мая курва ехала?» Я адказала: «Ехала». І ўсё».**

Аднак свой фатальны ўдзел у здарэнні яна адмаўляе. Ды і было ўсё, кажа яна, зусім не так.

«Аляксандр павінен быў зайсці да мяне адрамантаваць разетку. Я з'ездзіла ў вёску, вярнулася і патэлефанавала яму. Ён сказаў, што не дома і зайсці не зможа. Ну не дык не. Пасля ён у мяне спытаў: «Мая курва ехала?» Я адказала: «Ехала». І ўсё».

Вольга сцвярджае, што мужчыну, з якім была Наталля, яна ўвогуле не заўважыла, бачыла толькі жанчыну. У крымінальнай справе яна, маркуючы па ўсім, таксама не фігуруе — міліцыя да яе яшчэ ўвогуле не звярталася.



У гэтым доме адбылося двайное забойства.

Хутчэй за ўсё, тая Вольга і сапраўды не так вінаватая. Таму што пра Наталлю і Ігара ведалі ўсе і ведалі даўно. Напэўна, пра яго быў у курсе і сам Аляксандр. Проста ў той дзень не стрымаўся.

Аляксандр з Наталляй і Ігар з жонкай. Раней былі суседзямі па інтэрнацe, у якім жывуць супрацоўнікі мясцовых тэкстыльных прадпрыемстваў.

Ігар быў малодшы за сваю жонку на 10 гадоў і, як кажуць у інтэрнаце, вядомы «хадок» па жанчынах. Дзяцей у яго з жонкай не было. Па чутках, Ігара з Наталляй не раз лавіла маці Наталлі, тая самая цешча, у доме якой пасля і здарыцца бяда. Угаворвала дачку зрабіць нешта: ці сысці ад Аляксандра, ці кінуць Ігара. Тая не слухала. Ці ведаў пра тое, што адбывалася паміж Наталляй і суседам, сам Аляксандр? Дакладна невядома. Але ў інтэрнаце ўпэўненыя — ведаў. Чаму ж тады не сышоў ад сваёй жонкі раней?

«У іх увогуле былі даволі дзіўныя і складаныя адносіны», — адказваюць суседзі.

### «Звычайная сям'я, як і іншыя. Выпівалі...»

Адной прычынай гэтых «складаных адносін» была банальная і простая рэч — алкаголь.

З інтэрната, дзе яны жылі па суседстве з Ігарам, Аляксандр і Наталля з'ехалі два гады таму. Але недалёка — яны атрымалі больш камфортны пакойчык у іншым інтэрнацe, які стаіць на той жа вуліцы, праз некалькі дамоў. Калі яны туды засяліліся, то ўжо мелі статус «сям'і ў сацыяльна небяспечным становішчы». Гэты статус у 2013 годзе прысвоілі ім у школе, у якой вучыўся іх сын. Сям'ю часта наведвалі сацыяльныя работнікі, педагогі, псіхолагі, нават супрацоўнікі МНС. Справаздачы пасля візітаў пісаліся больш-менш станоўчыя, але кожныя паўгода статус «сям'і ў сацыяльна небяспечным становішчы» падаўжалі.

Прычынай было беспрацоўе бацькі — Аляксандр афіцыйна не быў нідзе афармлены, «шабашыў» то тут, то там, з'язджаў падпрацоўваць у Мінск, у Расію. Плюс спіртное.

«Гэта адзіная сям'я з такім статусам у маім інтэрнаце, — кажа загадчыца. — Але нічога асаблівa дрэннага я пра іх сказаць не магу. Яны былі не з тых, хто прoста ўвесь час беспрабудна п'е, не. Звычайная сям'я, як і іншыя. Выпівалі... Але праблем у мяне з імі амаль не было. Працавалі, плацілі за жыллё. Калі і здаралася нешта, то на публіку не выносілі, ва ўсякім выпадку, да мяне не даходзіла».

Нядаўна ў Наталлі пачаліся праблемы на працы. Амаль 20 гадоў яна правяла на «Магатэксе», мясцовым тэкстыльным прадпрыемстве, на пасадзе «апэратара ЭВМ» — нешта сярэдняе паміж сакратаром і справаводам. Алкаголь вінаваты ці не, але ў Наталлі заўсёды хапала прагулаў, і менш за год таму яе перавялі ў цэх — на пасаду чысцільшчыка тэкстыльнага абсталявання, то бок жанчына, якая ўсё жыццё прасядзела за камп'ютарам, фактычна стала прыбіральшчыцай станкоў. Цяжкая праца, яшчэ і ў тры змены. Гэта далося Наталлі зусім няпроста, але яна старалася не падаваць знаку. Нават знаёмым казала, што сама перавялася, бо ў чысцільшчыка большы заробак, а ў яе многа крэдытаў.

Праўда, ад прагулаў яна так і не пазбавілася. За іх яе неўзабаве і звольнілі, упісаўшы артыкул у працоўную кніжку. Сям'і пагражалі праблемы з жыллём — наймальнікам лічылася Наталля, а пасля такога звальнення сям'ю, паводле заканадаўства, маглі выселіць з інтэрната. Таму Аляксандр быў вымушаны ўладкавацца на той жа «Магатэкс».

Самога Аляксандра ў інтэрнаце апісваюць як чалавека вельмі эмацыйнага, «хуткага», халерыка. Ён родам з Магілёва, ягоная маці жыве на ўскрайку горада, але зносіны з ёй сын фактычна не падтрымліваў, сваякі Наталлі нават не ведалі, як яе завуць.

### «Знайшоў сабе новы дом?»

...Наталлю пахавалі 19 ліпеня. Яе і Аляксандра 14-гадовы сын фактычна застаўся сіратой. Хутчэй за ўсё, яго забярэ да сябе бабуля, маці Наталлі. Пахавалі і Ігара. Ягоная ўдава, па словах знаёмых, прызнаецца, што часам кажа, гледзячы на іх шлюбны фотаздымак: «Ну што, знайшоў сабе новы дом?» Аляксандр знаходзіцца ў СІЗА. Яму пагражае ад 25 гадоў да смяротнага пакарання.

Столькі лёсаў і жыццяў перакручана і пераламана. Дзеля чаго?

Але абсалютна ўсе суразмоўцы на пытанне, хто вінаваты ў гэтай трагедыі, адказваюць аднолькава: «Гарэлка».

**Улад Швядовіч, Палавінны Лог — Магілёў — Мінск**

**усе імёны зменены*

## Сцісла

### Былому кіраўніку Белкаапсаюза просяць даць 12 гадоў

Экс-старшыня Белкаапсаюза Сяргей Сідзько абвінавачваецца ў хабары і злоўжыванні ўладай. Дзяржаўны абвінаваўца Анатоль Мяцельскі просіць прысудзіць Сідзько да 12 гадоў пазбаўлення волі са штрафам 500 базавых велічынь, з канфіскацыяй усёй маёмасці, з пазбаўленнем права займаць кіруючыя пасады тэрмінам на пяць гадоў, з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

### Міліцыянер застрэліўся

Цела знайшлі 22 ліпеня каля 8 раніцы. Падрабязнасці і званне міліцыянта пакуль не агалошваюцца. Але інфармацыйны партал паведамляе, што афіцэру міліцыі было 37 гадоў, ён займаў пасаду намесніка начальніка аддзела крымінальнага вышуку, быў маёрам.

### Рухавік разарвала, загінуў рабочы

23 ліпеня ў паліўным цэху філіяла №1 цэментнага завода «Краснасельскбудматэрыялы» падчас работ па дэмантажы разарвала электрарухавік стужкападатчыка вугалю. Дэталямі і фрагментамі корпуса траўмавала двух манцёраў. 47-гадовы рабочы памёр на месцы, яго 53-гадовы калега быў дастаўлены ў Ваўкавыскую ЦРБ з пашкоджаннямі сярэдняй ступені цяжкасці.

### Трагедыя ў Пухавіцкім раёне

ДТЗ здарылася 22 ліпеня блізу вёскі Хазянінкі ў 17.30. 33-гадовы вадзіцель аўтамабіля «Опель» не даў раду кіраванню, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з «БМВ», за рулём якога быў 36-гадовы жыхар Мінска. У выніку кіроўцы змешчаны ў бальніцу, а 31-гадовая жонка вадзіцеля і пяцігадовая дачка, якія ехалі ў «Опелі», загінулі. Маці перавозіла дзіця на руках.

### Страшная аварыя ва Уздзенскім раёне

Блізу вёскі Каменка 30-гадовы вадзіцель матацыкла «Сузукі» не справіўся з кіраваннем і па датычнай сутыкнуўся з аўтамабілем «Форд-Ф'южн», які рухаўся ў спадарожным кірунку. У выніку матацыкл упаў на сустрэчную паласу, дзе на яго наехаў грузавы аўтамабіль «Мерседэс». Грузавік выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамабілем «Форд-Фокус», якім кіраваў 35-гадовы мінчук. Пасля гэтага «Мерседэс» з'ехаў у кювет і перакуліўся.

У выніку ДТЗ 44-гадовы пасажыр «Мерседэса» загінуў, а 32-гадовая жонка вадзіцеля «Форда-Фокуса» і 9-гадовы сын з траўмамі змешчаныя ў бальніцу (дзіця перавозілася без дзіцячага крэсла).

**УШ**

# Епіскап не даў дзяўчыне скочыць з моста

Раніцай 22 ліпеня дзяўчына, якая залезла на дугу пешаходнага моста цераз Сож у Гомелі, спрабавала ўчыніць суіцыд. Унізе сабраліся людзі, прыехалі ратавальнікі і міліцыя. Паводле слоў відавочцаў, дзяўчына плакала і казала, што спусціцца толькі ў тым выпадку, калі прыедзе яе маці. Непадалёку ад пешаходнага моста знаходзіцца праваслаўнае епархіяльнае ўпраўленне. На месца здарэння прыйшоў епіскап Гомельскі і Жлобінскі Стэфан. На мосце ён доўга размаўляў з дзяўчынай, пасля чаго яна спусцілася ўніз. Праваахоўнікі і ратавальнікі пры гэтым стаялі воддаль, таму не чулі, пра што ішла гаворка, піша kp.by. Але праз некалькі хвілін дзяўчына сама спусцілася з фермы моста. Епіскап адвёў дзяўчыну ў епархіяльнае ўпраўленне.

На просьбу журналістаў пракаментаваць здарэнне святар адказаў: «Я не герой» — і сышоў, адмовіўшыся гутарыць з прэсай.

Дзяўчыне 20 гадоў, яна жыхарка Гомельскага раёна і часова не працуе. Далейшае разбіральніцтва праводзіць міліцыя.

**Улад Швядовіч**



Епіскап і самагубца.

ПАВЕЛ МІЦКЕВІЧ, KP.BY

## П'яны кіроўца раздушыў намёт з сяброўкай

Трагедыяй скончыўся адпачынак на адным з азёраў каля вёскі Амневічы Баранавіцкага раёна. 25 ліпеня моладзь з намётамі стала лагерам у рэкультываваным кар'еры. Засядзеліся да світання. Адна з дзяўчын, 21-гадовая Аксана, пайшла адпачываць у свой намёт раней за кампанію. А ў гэты час, прыкладна а пятай ранку, адзін з сяброў вырашыў пераставіць свой Volvo S40, праехаўшы паміж намётамі, але наехаў на дзяўчыну. Тая памерла на руках у свайго хлопца, паведамляе «Комсомольская правда в Беларусі».

Аксана працавала ў Мінску і толькі ўвечары перад трагедыяй прыехала ў Баранавічы. Дзяўчына скончыла эканамічны факультэт універсітэта ў Баранавічах. Была адзінай дачкой у сям'і.



Кіроўца ўзяты пад варту. Гэта 26-гадовы мужчына — жыхар Баранавічаў, кіроўца-экспедытар прыватнага гандлёвага прадпрыемства. Следчыя высветлілі, што ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення — 1,9 праміле.

Заведзена крымінальная справа. Кіроўцу пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

## Прараб параніў сябе нажом, каб абрабаваць прадпрыемства

Грошы прызначаліся на заробкі будаўнікам.

У міліцыю ад службы 103 паступіла інфармацыя пра тое, што 38-гадоваму мужчыну з нажавым раненнем брушыны была аказаная дапамога. Па словах пацярпелага, яго парэзаў невядомы мужчына, якога ён падвозіў на аўтамабілі.

Міліцыянтам паранены кіроўца расказаў, што працуе начальнікам участка на адным з будаўнічых прадпрыемстваў. Перыядычна займаецца прыватным возніцтвам. На адной з вуліц да яго ў аўтамабіль падсеў мужчына, які заняў пярэдняе пасажырскае сядзенне. Падчас руху ў салоне выпадкова адчыніўся бардачок, у якім былі грошы (38 мільёнаў рублёў), якія прызначаліся для выплаты заробку супрацоўнікам прадпрыемства. Пасажыр, заўважыўшы гэта і ні слова не сказаўшы, узяў вялікі кухонны нож, які ляжаў у паглыбленні дзверцаў аўто, і ўдарыў ім у жывот кіроўцу, пасля чаго забраў усе грошы з бардачка і збег.

Аднак падчас правядзення далейшых аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў паказанні пацярпелага былі пастаўлены пад сумнеў. І ў рэшце рэшт высветлілася, што ніякага разбойнага нападу не было. Мужчына, вырашыўшы прысвоіць грошы, схаваў іх, а каб адвесці ад сябе падазрэнне — інсцэніраваў замах на самога сябе. Дзеля праўдападобнасці нават параніў сябе.

Аўтар інсцэніроўкі з нажом можа атрымаць да пяці гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

### Вышук



**Шукаюць за махлярства**

У міждзяржаўны вышук абвешчаны работнік аўтахаўса «Аўтатата» Шукан Віталь Аляксандравіч, 01.12.1980 года нараджэння, які жыў у Мінску на вуліцы Абрыкосавая, 12.

Прыкметы абвінавачанага: рост 185—190 см, поўнага целаскладу. Просьба да грамадзян, якія маюць інфармацыю пра мужчыну, аказаць дапамогу следству і паведаміць па тэлефонах: 8 (017) 229-05-90, 8 (017) 229-06-77, VEL 8 (029) 607-40-30.

Нагадаем, упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці расследуе крымінальную справу аб махлярстве ў дачыненні да былых работнікаў аўтахаўса «Аўтатата». Высветлена, што тры жыхары Мінска, з'яўляючыся работнікамі ТАА «АўтаХоўмКампані», вядомага як аўтахаўсы «Аўтатата», са жніўня 2012 па 2014 год пад выглядам рэалізацыі атрыманых на камісійны продаж аўтамабіляў падманулі каля 40 грамадзян. Фігуранты не вярнулі сваім кліентам больш за Br1,5 млрд.

Дзеянні абвінавачаных кваліфікаваныя следствам як махлярства, здзейсненае групай у асабліва буйным памеры. Цяпер двое з іх узятыя пад варту, трэці знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку.

## Віктару Пракапеню «шыюць» новыя справы

**Бізнэсмен адмаўляе** сваю віну.

Злачынныя дзеянні IT-бізнэсмена Віктара Пракапені нанеслі ўрон дзяржаве ў 12,6 мільярда рублёў. Аб гэтым заявіў начальнік аддзела інфармацыі і сувязяў з грамадскасцю Следчага камітэта Сяргей Кабаковіч.

У дачыненні да бізнэсмена распачатыя яшчэ дзве крымінальныя справы — за «ўхіленне ад выплаты падаткаў».

«У злачынную групу, арганізаваную Пракапенем, акрамя Аляксея Камка, маглі ўваходзіць і іншыя людзі. Называць канкрэтныя прозвішчы пакуль рана. Следства прапрацоўвае гэтыя версіі», — сказаў Кабаковіч.

Прадстаўнік ведамства адзначыў, што Віктар Пракапеня не прызнае сваёй віны і не ідзе на супрацоўніцтва са следствам.

«Пакуль бізнэсмэн не жадае пакрыць злачынны даход у 12,6 мільярда рублёў», — дадаў начальнік аддзела.

* * *

Вясной 2015 Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да беларускага бізнэсмена у сферы IT-тэхналогій і нерухомасці Віктара Пракапені. Устаноўлена, што бізнэсмен, дзейнічаючы ў складзе арганізаванай групы, займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю ў сферы продажу IT-тэхналогій без дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці суб'екта гаспадарання. У выніку незаконнай дзейнасці ён атрымаў даход у памеры $650 тыс.

Віктару Пракапеню прад'яўленае абвінавачванне за «незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, здзейсненую арганізаванай групай, з атрыманнем даходу ў асабліва буйным памеры». Цяпер ён знаходзіцца пад вартай.



### Сцісла

**Завербавала праз інтэрнэт, каб прадаць у рабства**

Жыхарку Жлобіна затрымалі 17 ліпеня. Паводле дадзеных аператыўнікаў, яна завербавала праз інтэрнэт чатырох дзяўчат, каб пераправіць іх у Іарданію. Там беларускам трэба было б займацца кансумацыяй у начных клубах, то бок падахвочваць кліентаў купляць ежу, напоі і іншыя паслугі. За працу кожнай дзяўчыны жыхарцы Жлобіна быў абяцаны ганарар у памеры $300 штомесяц. Але замест прыбытку будуць страты: на жанчыну склалі адміністрацыйны пратакол, яе аштрафуюць на суму ад 50 да 200 базавых велічынь.

**У Мёрскім раёне застрэлены егер, магчымая прычына — помста**

57-гадовага егера Дзісенскага лясгаса застрэлілі ў двары ўласнага дома ў вёсцы Цвеціна Мёрскага раёна. Злачынца з месца здарэння ўцёк. Назаўтра ў закінутым доме той самай вёскі затрымалі падазраванага. Гэта мясцовы жыхар 1970 года нараджэння. Следчыя мяркуюць, што матывам забойства з'яўляецца помста — відаць, прынцыповы егер прыцісну браканьера.

**Голы лавіў таксі**

У Мінску на стаянцы таксі АМАП злавіў голага мужчыну. Высветлілася, што 25-гадовы малады чалавек хацеў такім спосабам зрабіць уражанне на дзяўчыну. На яго склалі пратакол за хуліганства.

**СМ; БелаПАН**

# Крыжовы паход князя Вітаўта

12 жніўня 1399 адбылася **фатальная для Вялікага Княства бітва** на Ворскле. Зірнем на яе вачыма ўдзельнікаў — нямецкіх рыцараў.

Пры канцы XIV стагоддзя вялікі князь Літоўскі Вітаўт умацоўвае палітычныя пазіцыі, заключыўшы ў 1398 г. дамову з Тэўтонскім ордэнам (Салінскае пагадненне). Гэтае пагадненне дазваляла Вітаўту праводзіць актыўную знешнюю палітыку на ўсходнім (паўночна-ўсходняя Русь) і паўднёвым (Арда) кірунках. Князь збірае войска, у якім, апроч літоўскіх князёў, былі татарскія, польскія, валашскія і нямецкія рыцары, і здзяйсняе паход у стэп. На рацэ Ворскла летам 1399 года адбываецца бітва з войскам татарскіх даводцаў Цімур-Кутлука і Едзігея, падчас якой Вітаўт атрымаў страшную паразу. Бітва была шырока асветленая ў беларуска-літоўскім і рускім летапісанні, а таксама мела міжнародны рэзананс. Пра гэта засведчылі шматлікія згадкі ў нямецкіх хроніках, а таксама 26 параграф Канстанцкага сабора 1415 г., дзе выказваецца жаль Госпаду аб князі і ягоных сынах, якія быццам бы загінулі падчас бітвы. У гістарычнай свядомасці народаў Усходняй Еўропы бітва на Ворскле засталася як няўдалая спроба князя Вітаўта «сесці на Маскве і на ўсёй Рускай зямлі» (Ноўгарадскі летапіс), а таксама зрабіць саюзнага Вітаўту Тахтамыша ханам Залатой Арды.



**Бітва на Ворскле. Мініятура XVI.**

### Заваяваць паўсвету адной бітвай?

Амаль ва ўсіх беларуска-літоўскіх летапісах сярэдзіны XV стагоддзя (Нікіфараўскі, Увараўскі, Супрасльскі, Яўрэінаўскі, Альшэўскі спісы) прысутнічае «геапалітычная» версія. Згодна з ёй, Вітаўт сабраў міжнароднае войства, каб умяшацца ў дынастычныя спрэчкі Чынгізідаў і дзякуючы адной стэпавай бітве карэнным чынам змяніць палітычную структуру Усходняй Еўропы. «Літоўская версія» амаль поўнасцю супадае з найбольш раннімі звесткамі ноўгарадскіх летапісаў. Тлумачыцца гэта тым, што складальнікі беларуска-літоўскага летапісання запазычылі расповед пра бітву сярод іншых агульнарускіх сюжэтаў з маскоўскага летапіснага звода 1418 г. мітрапаліта Фоцiя. Ёсць толькі адно выключэнне: у тэкстах беларуска-літоўскага звода няма згадак пра намер Вітаўта сесці на маскоўскім вялікім княжанні.

Каротка пра «рускую версію». Згодна з ёй, летам 1399 да Вітаўта прыбягае татарскі хан Тахтамыш, якога прагнаў з Арды іншы хан, Цемір-Кутлуй. Тахтамыш абяцае Вітаўту «ўсю зямлю Рускую» — з Ноўгарадам, Псковам і Масквой, — калі Вітаўт зробіць яго вялікім ханам Залатой Арды. Тым часам у Літву прыязджаюць паслы ад Цемір-Кутлуя з просьбай выдаць Тахтамыша. Вітаўт адказвае, што беглага хана не аддасць і хацеў бы сам асабіста пабачыцца з Цемір-Кутлуем.

Сустрэча каля ракі Ворсклы (прыток Дняпра ва Украіне) сканчаецца тым, што «паганыя татары пабілі многа князёў літоўскіх, і ваяводаў, і баяраў вялікіх, і хрысціянаў многа і Літвы, і немцаў, і ляхаў» (Сафійскі летапіс). Паразу Вітаўта наўгародскі летапісец тлумачыў тым, што князь, раней праваслаўны, «прыняў ляшскую веру» ды «задумаў... паланіць Рускую зямлю». Калі ў самых ранніх ноўгарадскіх летапісах у спісе магчымых валоданняў Вітаўта, якія б ён займеў, падтрымаўшы Тахтамыша, згадваюцца Ноўгарад, Пскоў і Масква, дык у Ніканаўскім летапісе XVI ст. арэал шырэйшы: апроч Літвы і Польшчы, гэта «Север, Немцы, усе вялікія княжэнні Рускія». Гэта выклікае сумневы.

Незразумела, як Вітаўт збіраўся вырашаць лёс Усходняй Еўропы адной стэпавай бітвай. Нават перамога над татарамі наўрад ці прымусіла б іншых татарскіх даводцаў, а таксама магутных васалаў ардынскіх ханаў — рускіх князёў — «паддацца» літоўскаму князю. Па-другое, наўрад ці польскае, нямецкае і валашскае рыцарства збіралася ваяваць за палітычныя амбіцыі нядаўняга язычніка, а тым больш было гатовае да працяглай кампаніі ў невядомых стэпах. Відавочна, што паход меў лакальнае значэнне. Па-трэцяе, паведамленні ноўгарадскіх летапісаў не грунтуюцца на інфармацыі сведак, бо ноўгарадцаў на Ворскле не было. Наколькі дакладныя ў такім выпадку сведчанні рускіх летапісаў?

### Параза хрысціянскага воінства

Дзеля поўнага ўражання аб тым, што насамрэч адбывалася ў жніўні 1399 ля ракі Ворсклы неабходна вывучаць крыніцы нямецкага і лацінамоўнага паходжання. Найбольш падрабязным з'яўляецца сведчанне прускага храніста Іаана фон Позільге:

(12 жніўня 1399) «У гэты час імператар татар рушыў з вялікай сілай на Вітаўта і ўмацаваўся ля Кіева. Таму Вітаўт сабраў вялікае войска, і яму на дапамогу было даслана з Прусіі сотня коп'яў. Вітаўт рушыў да цара прыкладна на 32 мілі за Кіеў, там размясціўся ён на рацэ і чакаў бітвы каля 5 дзён. Татары не хацелі пераправы... Вітаўт рушыў ад пераправы на 3 мілі. Тады паўсталі татары і пайшлі за ім... акружылі і знішчылі іх, адбыўся прарыў, але (татары) білі адступаючых, і была забіта большая частка прусаў, палякаў і найлепшых з тых, хто быў пасланы на бітву, так што мала хто з іх вярнуўся. Так казалі бaяры літоўскія, што вялі яны Вітаўта і брата яго Жыгімонта ноччу; інакш былі б яны таксама забітыя. Таксама прыйшоў пан Марквард фон Зальцбах, комтур Рагніта і двое іншых самастойна. Таксама былі забітыя двое набожных рыцараў — паны Ханус і Томас Зурвіле, дастойныя. Дай, Госпадзе, ім вечны спакой, у якім бы яны вечна знаходзіліся!».

Ёсць сведчанні пра бітву ў яшчэ дзвюх хроніках. Яны падобныя да інфармацыі фон Позільге, але не ідэнтычныя — што кажа пра самастойнасць кожнай з іх. У хроніцы прадаўжальніка Дэтмара Вітаўт вяртаецца дадому з сямю рыцарамі, у «Торуньскіх аналах» акцэнтуецца параза менавіта «хрысціянскага» воінства. Усе тры хронікі актыўна вяліся падчас бітвы (канец XIV ст.). Фон Позільге карыстаўся інфармацыяй непасрэдных удзельнікаў бітвы, імя аднаго з іх ён падае (комтур Рагніта Марквард фон Зальцбах). Супольным для хронікі фон Позільге і для рускіх летапісаў з'яўляецца дакладная дата бітвы — 12 жніўня 1399. І ў нямецкіх, і ў рускіх тэкстах падкрэсліваецца міжнародны характар войска Вітаўта — складваецца ўражанне, што палякаў і немцаў у ім было больш, чым літоўцаў і русінаў. Менавіта інтэрнацыянальны характар паходу прыцягвае ўвагу да крыніц іншага паходжання — дакументаў папскай курыі.

### Була Баніфацыя IX

У дзясяты год свайго пантыфікату, у маі 1399, папа Баніфацый IX даслаў булу біскупу Кракава. У буле апісваюцца бедствы хрысціян ад паганцаў-варвараў, прысутнічае заклік да біскупа «перадаць ладан» (місію) каралю Уладзіславу (Ягайла) абараніць «вінаграднік Божы» ад няверных. У буле яскрава адлюстраваная рыторыка крыжовых паходаў у дачыненні да татар: слова аб Крыжы, ажыццяўленне Крыжа, барацьба супраць ворагаў Хрыстовых і інш. Гаворыцца пра неабходнасць абароны веры Хрыстовай, якая адбудзецца ў выніку крыжовага паходу супраць татараў.

За ўдзел у паходзе папа абяцаў дараванне грахоў. Рыцараў для паходу збіралі з Польскага каралеўства, «княстваў і герцагстваў Літвы, Русі, Падоліі і Валахіі», якія пакутавалі ад «уціску язычнікаў». Адпаведную булу на крыжовы паход папа выдае вясной 1399. Застаецца меркаваць, што паход князя Вітаўта, які быў пажыццёвым васалам караля польскага Уладзіслава Ягайлы, быў нечым іншым, як крыжовым паходам супраць няверных. Наколькі гэта стасуецца з дадзенымі нямецкіх і рускіх пісьмовых крыніц?

### Чатыры аргументы на карысць крыжовага паходу

Па-першае, була на крыжовы паход добра «ўвязваецца» з агульнай храналогіяй выправы, бо паход Вітаўта павінен быў пачацца вясной-летам 1399. Перад бітвай была паўза, адлюстраваная ў рускіх летапісах і нямецкіх хроніках (перамовы князя з ханам, манеўры). Цяжка ўзнавіць сапраўдную паслядоўнасць паходу, але з вялікай доляй імавернасці можна сцвярджаць, што Вітаўт чакаў рыцараў з Літвы, Польшчы, Валахіі і Тэўтонскага ордэна (у Сярэднявеччы гэтае чаканне магло цягнуцца па некалькі месяцаў). Цалкам магчыма, што канчатковым пунктам збору быў Кіеў.

Па-другое, землі, адзначаныя ў буле (Польшча, Мазовія, Літва, Валахія), за выключэннем Прусіі, суадносныя тым землям, адкуль да Вітаўта ішлі рыцары, згодна з нямецкімі і рускімі паведамленнямі. Браты Ордэна маглі не адзначацца, таму што пасля булы 1394 г., у якой былі забароненыя крыжовыя паходы на хрысціянскую (з 1387) Літву, браты ўжо не лічыліся крыжакамі апрыёры і былі такімі ж добраахвотнікамі, як і польскія ці літоўскія рыцары. У буле не згадваецца імя Вітаўта, заклік ідзе да рыцарства ягоных земляў — для рэалій прапаганды крыжовых паходаў у Еўропе было характэрна звяртацца не да свецкіх каралёў, а непасрэдна да будучых удзельнікаў (рыцараў, сялян, мяшчан). З іншага боку, Вітаўт быў васалам Ягайлы, і таму ў буле фігуруе імя караля Уладзіслава.

Па-трэцяе, хрысціянская рыторыка булы падобная да аналагічнай рыторыкі двух нямецкіх паведамленняў — «няверных» і «хрысціян» («Торунскія аналы») і «набожныя рыцары» і «цар татар» у Іаана фон Позільге. У рускіх летапісах князь Вітаўт — «паганы», той, хто мысліць ліха хрысціянам. Мауляў, з гэтай прычыны Госпад і пакараў яго рукой паганых. Такім чынам, ва ўсіх пісьмовых крыніцах бітва на Ворскле адлюстроўваецца рэлігійнае супрацьстаянне.

Чацвёртае: версія аб крыжовым паходзе князя Вітаўта супярэчыць ягоным «задумам» аб захопе Рускай зямлі? (такая інтэрпрэтацыя ў рускіх летапісах). План Вітаўта «пасадзіць» Тахтамыша ў Ардзе, а самому атрымаць ад яго Ноўгарад, Пскоў, Маскву і ўсю Русь быў фантастычкай нават для таго часу. Наўрад ці цяжкаўзброенае войска Вітаўта (магчыма, з артылерыяй) пусцілася б у дальні пераход ва ўмовах Дзікага поля, а потым пайшло б заваёўваць Русь, нават калі б каля Ворсклы літоўскаму князю пашчасціла.

У сувязі з гэтым легенду пра імперскія амбіцыі Вітаўта можна лічыць міфам ноўгарадскага летапісца, а сам паход — крыжовым, у які выпраўляліся дзеля прэстыжу і даравання грахоў. Як бачым, ён стаў першым і апошнім для вялікага князя Вітаўта.

**Піліп Падбярозкін**



**Піліп Падбярозкін**

Нар. у 1991 у Мінску. Выпускнік гістфака БДУ. Стажаваўся ў Лейпцыгскім універсітэце. Займаецца кантактамі германцаў і ўсходніх славянаў у познім сярэднявеччы (XIV-XVI ст).

# Бацька Аляксандра Македонскага быў гігантам

180 см!

Археолагі знайшлі пацвярджэнне сапраўднасці парэштак Філіпа II, бацькі Аляксандра Македонскага. Пра сваё даследаванне яны напісалі ў часопісе *Proceedings of the National Academy of Sciences.*

Філіп II Македонскі быў кульгавы на левую нагу, меў скрыўленне шыі, а таксама неймаверны для свайго часу рост у 180 см. Ён мог быць самым высокім македонцам свайго часу.

Яго славуты сын, Аляксандр Македонскі, быў невысокім — меркавана, каля 150 см.

На сёння вядомыя тры грабніцы пад горадам Вяргіна (Грэцыя), у якіх могуць знаходзіцца парэшткі Філіпа II. Большая частка археолагаў схілялася да версіі, што цар пахаваны ў багатай грабніцы з рэшткамі мужчыны і жанчыны. Але некаторых спецыялістаў насцярожвала, што той мужчына не мае слядоў траўмы, якую Філіп II атрымаў у 339 годзе да н.э.

Аналіз анатоміі і ўзросту парэштак паказаў, што Філіп II пахаваны ў іншай грабніцы разам з жанчынай і дзіцём. Мужчына якраз кульгаў на левую нагу (пра гэта кажа моцна дэфармаваны каленны сустаў, а таксама дэфармаваная патылічная костка — яму даводзілася схіляць галаву набок падчас хады), памёр у веку каля 45 год (жанчына — каля 18 год, дзіця — амаль адразу па нараджэнні).

Гэта падобна да гістарычных сведчанняў: Філіп II быў забіты сваім ахоўнікам пасля таго, як кінуў жонку і ажаніўся з маладой дзяўчынай. Гэта быў сёмы яго шлюб, а дзяўчына была дачкой скіфскага цара.

Далейшыя даследаванні парэштак могуць распавесці, як Філіп II лекаваў рану, чым харчаваўся і ад чаго насамрэч памёр.

Філіп II лічыцца заснавальнікам першай «адзінай Грэцыі» — магутнай Македонскай дзяржавы, вакол якой аб'яднаў Карынфскі саюз гарадоў-дзяржаў дзеля атакі на Персію. Захапіць Персію і стварыць агромністую імперыю змог ужо яго сын, Аляксандр Македонскі.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Эпоха на лістках календара

Што пісаў **Максім Танк** у дзённіках 30, 40, 50 гадоў таму.



## 1965

**4.I.** Новы год сустрэў, п'ючы замест шампанскага розныя зёлкі ад прастуды. Сёння праводзіў Максіма ў армію. Службу будзе праходзіць у Баранавічах. Дамашнія крыўдзяцца на мяне, што не памог, як гэта робяць іншыя, вызваліць сына ад арміі.

**15.I.** Амаль цэлы дзень прайшоў у Баранавічах у Максімавай аўтарамонтнай часці. Гутарыў з яго камандзірамі. Прасілі прыехаць правесці ў іх літаратурны вечар. Паслаў у Маскву тэлеграму, што 25-га прыеду на пленум СП. Сёння ў СП адзначаем 60-годдзе А. Пальчэўскага.

**2.II.** Чарговы салдацкі трыкутнік ад Максіма. Хворы. Абакралі яго да ніткі. Пісьмы яго зусім выводзяць мяне са строю. Дома — нараканні, слёзы. Не ведаю, калі кончацца і яго, і нашы пакуты.

**15.III.** У тыднёвіку Kultura — цікавы артыкул пра поп-арт — новую плынь у мастацтве, якая зарадзілася ў Злучаных Штатах Амерыкі, некаторыя лічаць яе рэакцыяй супроць абстракцыянізму. «Прадметнасць, канкрэт, наградмаджэнне рэаліяў, апавяданне аб рэчах — вось рысы гэтай тэндэнцыі» (Е. Косан).

Прыехала Ядвіга. Расказала цікавую гісторыю пра свайго суседа, які закалоў парсюка і, нечага пасварыўшыся з жонкай, сказаў, што пойдзе павесіцца. Тая думала, што ён жартуе, і нат дала яму вяроўку. Але калі праз нейкі час выйшла ў сені і ўбачыла, што мужык сапраўды вісіць, перапалоханая, пабегла ў міліцыю. А ў гэты час да іх прыйшла суседка. Убачыўшы, што нікога няма ў хаце, схапіла кумпяк і хацела ўжо ўцякаць, ды раптам чуе голас вісельніка: «Пакінь хоць на памінкі...» Тут яна і абамлела. У гэты час вярнулася жонка з міліцыянерам і ў сенях застала непрытомную суседку, а за сталом свайго мужа, які расказаў, што ён хацеў пажартаваць, бо вешацца не збіраўся. Абвязаўшы сябе вяроўкай пад пахі, ён толькі інсцэніраваў сваё самагубства. За ўсе гэтыя яго жарты далі яму 15 сутак арышту, а суседку, ледзь жывую з перапуду, адвезлі ў бальніцу.

**10.V.** З П. Глебкам прыехалі ў Маскву. Вечарам пайшоў на спектакль «Укралі консула». У антракце напісаў навеяны маскоўскім дажджом верш:

Дрэнна стаяць пад дажджом
Пачынаючаму паэту...

**12.X.** С. С. Арлоў пайшоў купляць плёнку для кінаапарата, а я вечарам пайду ў тэатр У. Маякоўскага на «Каўказскі мелавы круг» Б. Брэхта. Здаецца, заўтра раніцой самалётам ляцім у Будапешт. Дакараю сябе, што легкадумна згадзіўся паехаць у гэта чарговае і клапатлівае падарожжа.

**3.XI.** Заходзіў Міхаіл Ханінаў. Расказваў пра сваё жыццё, колькі яму давялося хлебануць гора на фронце, у партызанах, дзе і сёння аб ім па ўсёй Віцебшчыне ходзіць баявая слава — слава пра «Мішу Чорнага». А потым, калі быў арыштаваны і сасланы ў Сібір разам з усімі калмыкамі, як пакутаваў у прамерзлай зямлянцы, а пасля смерці жонкі гадаваў сваю асірацелую дачушку, як пад канвоем ездзіў у вобласць атрымліваць свой баявы ордэн. Страшны лёс выпаў на долю паэта і калмыцкага народа. Я гляджу на яго як чалавека, які пасля Дантэ прайшоў праз усе самыя страшныя кругі пекла.

Ужо трэці тыдзень ляжу з болем у сэрцы. Далі аб сабе знаць мае няспынныя камандзіроўкі і асабліва — апошняя, у Венгрыю і ў Польшчу.

**21.XII.** Прыснілася: прыехала маці. Федзя прыцягнуў аднекуль наш стары грамафон, і пад яго ахрыплую музыку я прачнуўся.

Распачалася сесія Вярхоўнага Савета БССР. Усё яшчэ пасля хваробы не магу прыйсці ў сябе. Пішу навагоднія віншавальныя паштоўкі, тэлеграмы.

Выбралі мяне на сесіі старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі. Віншуюць. А я з жалем думаю, што з вершамі, відаць, прыйдзецца мне развітацца. Прачытаў у кнізе О. С. Рэзніка, прысвечанай творчасці І. Сяльвінскага, які, відаць, не знае польскай мовы, глупейшую недарэчнасць: «І выхад для народа толькі адзін, падказаны сацыялістычнай рэчаіснасцю. Ты даб'ешся ратунку, Польшча, калі не будзеш паннай».

**28.XII.** Казімір Зыберт расказаў пра маці дзвюх дачок Зінаіду Вітанаву з нашага Суража, якая доўга пасля вайны шукала згубленых у фашысцкім канцлагеры сваіх дачок. Яна помніла іх нумары. І вось адну з дачок знайшла ў Кракаве. Жыве яна ў сям'і нейкага прыватнага гандляра і сама стала гандляркай. Даведаўшыся, што сапраўдная маці жыве, адмовілася ехаць да яе і сустракацца. «Я думала, што яна ў Амерыцы»...

**29.XII.** Памерла цётка Соня. Ездзіў з Ленай на Маскоўскі магільнік выбіраць месца для пахавання. Колькі я ні стараўся атрымаць на гэта дазвол, нічога не мог зрабіць, а некалькі рублёў хабару, якія некаму з пахавальнай канторы дала сястра, адразу ўсё вырашылі.

Сёлета з падпіскай на «Полымя» крыху лепш і пераваліла за шэсць тысяч. Усё роўна, для нашай рэспублікі — тыраж мізэрны. Усе нашы кіраўнікі тлумачаць гэта рознымі прычынамі, хоць ведаюць, што галоўнае — у катастрафічным скарачэнні беларускіх школ і ў ненармальным становішчы з беларускай мовай у рэспубліцы.

## 1975

**7.I.** Былі з І. Шамякіным у П. М. Машэрава. Амаль чатыры гадзіны гаварылі і пра літаратуру (тыражы, выкладанне беларускай мовы), і архітэктурныя помнікі, і сельскую гаспадарку.

Прыйшлі на памяць нейкія радкі: «Цень велізарнай птушкі прабягае па маім твары». А чые — не магу ўспомніць, хоць цэлы дзень хаджу пад іх уражаннем.

Званіў С. В. Марцалеў. Прапануе з'ездзіць з ім у Магілёў.

**14.II.** Нарэшце звалілі мяне з ног розныя паездкі. Грып. Запаленне лёгкіх. А тут прыйшла сумная звестка: памёр М. П. Браўн. Пасля А. А. Пракоф'ева — гэта адна з найбольшых страт. Не стала харошага друга, паэта і перакладчыка, які шмат зрабіў на ніве ўмацавання нашых творчых сувязяў з рускай літаратурай. Вечарам заходзілі ў пераведы Шамякін, Вярцінскі, Грачанікаў, Макаль. Хацеў іх пачаставаць польскай «Зуброўкай», але яны спяшаліся на вячэру з Верчанкам. Званіў з Кішынёва Е. Букаў, але яму сказалі, што ляжу хворы.

«Чакаю спакою і ўваскрашэння з мёртвых», — напісана на магіле Фёдарава. Гэтага — на жаль — нельга напісаць на магілах нашых сучаснікаў.

Д. А. Сікейрас, аказваецца, быў у атрадах рэспубліканцаў у Іспаніі. Можа, ён сустракаўся і з «Герасімам». Мне трэба пабываць у Іспаніі, пад Ларыдай, дзе ён загінуў. Гэта памагло б мне ў рабоце над паэмай, да якой усё не магу прыступіць. Усё больш пераконваюся, што толькі вызваленне ад свайго сакратарства ў СП можа мяне выратаваць як паэта.

Мне здаецца, што зараз аб каханні і сэксе больш адважна пачалі пісаць жанчыны. Так — у Польшчы, у Балгарыі. Модным стала шумець аб лёсе рамана. Нат спецыяльна была праведзена міжнародная нарада ў Ленінградзе, на якой пераждоўвалі гэту тэму нат сур'ёзныя пісьменнікі. Проста — фацэцыя!

А ў кіно ідуць даўжэзныя шматсерыйныя фільмы, нат глядзець не хочацца такую нудоту. Зараз ужо на экране не паказваюць героя адразу, а толькі па частках. І называюць гэта «псіхалагічным рысункам». Усё гэта не мае нічога супольнага з сапраўдным мастацкім наватарствам, з кандыдаўскім імкненнем да немагчымасці.

**16.II.** Заходзіў У. Паўлаў. Прынёс рукапіс маіх вершаў пра каханне. Нешта, казаў, апалчыліся ў выдавецтве супроць назвы зборніка «Ave Maria». А гэта, мне здаецца, лепш, як «Ты мая пчолка» П. Броўкі, што гучыць і наіўна, і сентыментальна.

**20.II.** Быў у лечкамісіі. Невясёлыя справы. Знялі кардыяграму. Частыя перабоі. Званіў У. Караткевіч. Доўга па тэлефоне расказваў пра розныя свае прыгоды. Заўтра зноў трэба ісці на аналізы. Усё так дакучыла, што аж перасварыўся са сваімі дамашнімі.

Усё больш вызваляемся ад наіўнай веры ва ўсёмагутнасць чараў паэзіі. Нельга перабольшваць і выхаваўчага значэння літаратуры, бо ўжо даўно яна не займае свайго ранейшага прывілеяванага месца ў жыцці. І слова «пісьменнік» выклікае меншую зацікаўленасць, як словы «футбаліст», «штукар».

**21.II.** Зноў і сёння завязалася з У. Караткевічам па тэлефоне працяглая бяседа. Цікавы і самабытны пісьменнік. Толькі любіць парысавацца. Катэгарычны ў сваіх прысудах. Каго любіць — хваліць без меры, каго ненавідзіць — чарніць і бэсціць.

А гэта з расказаў нашых дыпламатаў: калі на адным з банкетаў Радзівіл падняў тост за калгасы ў Польшчы, нехта спытаў у яго: як гэта трэба разумець. І той адказаў: «Радзівілы заўсёды былі прыхільнікамі буйной гаспадаркі».

Калі ў міністра Даніі спыталі, як іхняя краіна дабілася такіх поспехаў у сельскай гаспадарцы і ў чым таямніца гэтых поспехаў, той адказаў: «Наша масла самае смачнае, бо сяляне нашы чытаюць паэтаў».

**22.II.** Мода, мода, мода! Відаць, гэта — сур'ёзная пошасць, якая часта кружыць нат разумныя галовы. Зараз многія пашаліся на турызме і сэксе. Праўда, цяжка правесці граніцу паміж імі і сапраўдным мастацтвам, бо ўсё залежыць ад узроўню культуры чалавека.

Трэба навучыцца ў Гарацыя «смеючыся гаварыць праўду». Ніяк не ўдалося адмовіцца ад выступлення на нарадзе, прысвечанай 30-годдзю Перамогі.

Чаго толькі не наснілася ў мінулую ноч! Помню, наша маці заўсёды пачынала свой дзень з расказаў, што яна бачыла ў сне. А бачыла яна дзівы-дзіўныя і вешчыя.

**23.II.** Многім здаецца, што лёс паэзіі вырашаецца ў Мінску, на Парнасе. Прызнацца, самыя неверагодныя задумы ў мяне зараджаліся ў маёй глухой Пількаўшчыне. У літаратурных сталіцах я толькі іх правяраў, прымяраў, як вопратку на кірмашы.

Ніхто яшчэ ў нас на ўвесь голас не сказаў пра розныя дапатопныя літаратурныя даследаванні, цытаты, фрагменты твораў, якія калісьці гучалі ўзнёсла, паэтычна, а зараз гучаць парадыйна.

Дзве вартыя ўвагі сентэнцыі са «Шпілек»: «Перш за ўсё вывучаю меню, а потым — афіцыянта» і «Ніколі не грашыць — недаравальны грэх».

Пішам аб адлюстраванні рэчаіснасці, а каго гэта можа задаволіць?

За час хваробы прачытаў цэлую гару кніг. Слабая распрацоўка нашай гісторыі стварае ўмовы для з'яўлення розных псеўдагістарычных твораў.

Яшчэ раз прачытаў Сада. Вельмі пасрэдны пісьменнік. А ў прадмове — геній.

Некаму былых капэзэбоўцаў прыслалі свае ўспаміны. Крыўдзяцца, што іх не друкуюць. А як іх друкаваць, калі рэчы бездапаможныя і надаюцца толькі для архіўных справак.

**3.IV.** Каля будкі, дзе здаюць тару, бачыў аднаго з нашых маладых класікаў, які сядзеў на гары сваіх пустых бутэлек. Ён, як радэнаўскі «Мысліцель», быў так заглыбіўшыся ў газету, што нікога не заўважаў. Ды і я не асмеліўся парушаць яго роздум, творчы спакой.

**4.IV.** Вечарамі ў нас гараць усе электрычныя лямпкі, нат у закутках, дзе нікога няма. Мы з Любашай, не прывычныя да такога марнатраўства, ходзім за сваімі дамачадцамі ды гасім гэту нікому не патрэбную ілюмінацыю. І так — з вадой, з ядой. Не прывучылі мы дзяцей да ашчаднасці. Яны думаюць, што ўсё жыццё — «dolce vita».

**6.IV.** Зараз у Маскве і ў нас усе гасцініцы запоўнены турыстамі. Відаць, хутка турызм перародзіцца ў стыхійнае няшчасце. Не застанецца ніводнага месца на зямлі, свабоднага ад гэтай пошасці — саранчы дваццатага веку. Памутнела ўжо і наша Нарач, абмялелі яе крыніцы, не стала ў ёй славутай сялявы, і парадзелі яе прыбярэжныя лясы.

Гартаю слоўнікі і радуюся, што нарэшце пачалі ў нас з'яўляцца дыялектныя слоўнікі, без якіх мова губляе свае рэгіянальныя вытокі, становіцца падобнай да ракі, закутай у бетонныя ці гранітныя берагі.

**13.V.** Думаю, што мне не трэба было спяшацца з друкаваннем сваіх «Лісткоў календара», бо тое, што скараціў, не адналю ніколі. Памёр Р. Сабаленка. Ён напісаў пра мяне першы нарыс аб маёй паездцы ў Мінск у 1939 г. Друкаваць я яму не раіў, бо шмат было ў гэтым нарысе недакладнасцей, наіўнасцей. Званілі, каб з'ездзіў на 70-годдзе Шолахава ў Вёшанскую. Не ведаю, як мая Любаша справіцца з нашым дамашнім калгасам. Чорт ведае, колькі ў яе клапот. І з кожным годам іх прыбывае. Прыехаў Озга-Міхальскі. Была — казаў В. Панамароў — цікавая радыёперадача пра мяне, але я не прапусціў. Апошнія часы вельмі мала чытаю. Так можна і адзічэць. Зноў трапіў у палацу юбілеяў, прыёмаў.

**21.V.** Лечкамісія. Палата №403. Перада мной тут ляжаў С. Грахоўскі. Лячуся ў вельмі сімпатычнай Ірыны Аляксандраўны Аляшкевіч. Яна, здаецца, мая суседка, з Маладзечаншчыны. Заходзіў мой стары знаёмы доктар Н. А. Хадзінскі. Адказаў на пісьмо нейкага І. І. Говара, які напісаў нарыс пра мяне. Не раю яму гэта друкаваць. Школьныя праграмы і так перагружаны рознай лухтой, рознымі рэбусамі.

**29.V.** Сустрэў на калідоры нашага кампазітара Вагнера. Цікавы чалавек і субяседнік. Адчуваецца, што шмат чытае, ведае нашу беларускую літаратуру, чым радка хто з кампазітараў можа пахваліцца.

**3.VI.** У Нясвіжы сустрэў Я. Бабосава, які прыехаў пасля трагічнай смерці сына падлячыцца. Заўтра пайду па ўрачах. А сёння слухаю канцэрт жаб, якіх даўно не чуў. Спыніўся ў палацы 63-й: пярэдняя, спальня, ванная, тэлевізар, радыё, халадзільнік, газавая пліта, самавар... І нашто ўсё гэта мне?

**17.VI.** Удалося па тэлефоне пагаварыць з Любашай. Заўвярае, што ў іх усё добра. А мне не верыцца. Не хоча, відаць, мяне непакоіць. Сказала толькі, што дрэнна сябе адчувае Міхась Ціханавіч. Трэба хутчэй вяртацца на Нарач. Купіў пару шклянак клубнікі. Толькі нейкая яна тут кіслая. Відаць, не хапіла ёй сонца. Сёння пахадзіў па Нясвіжы. Да чаго запушчаны горад, хоць ён і патанае ў зеляніне дрэў. На возеры п'яныя перавярнулі лод-

ку. Нехта ўтапіўся. Ідзе рамонт старога касцёла, у якім, чуваць, захаваліся грабніцы Радзівілаў. Каля помніка воінам гарыць вечны агонь. Нехта ўсклаў на пліту букет рамонкаў. Вечарам разгулялася навальніца. Прысніўся Забэйда. Глядзіць на мяне праз запацелую шыбу акна і плача. І я расхваляваўся, выціраю слёзы. Трэба павіншаваць Кандрата Кандратавіча з прысваеннем яму звання Героя Сацыялістычнай Працы і наведаць у палацe старога М. С. Гурвіча ды, можа, вечарам схадзіць на фільм «Яны змагаліся за Радзіму».

**18.VI.** Пазычыў у бібліятэцы зборнік П. Броўкі з нуднай прадмовай С. Майхровіча. Падобнымі артыкуламі мы збанілізавалі многіх паэтаў.

Прыехаў мой цёзка — Я. І. Клімчанка. Ён быў членам Рэспубліканскай выбарчай камісіі. Казаў, у галасаванні прыняло ўдзел 99,97 прац..

**5.VII.** Масква. Быў на Сіўцавым Уражку. Накупляў лякарстваў. Бяда толькі, што яны не памагаюць. Усю ноч шумяць вуліцы, быццам па іх праносяцца сотні эшалонаў. Раніцой зайшоў А. І. Падабед. Дзяліўся надзвычай цікавымі сваімі партызанскімі ўспамінамі. Абяцаў пасылаць яму апошнія нумары нашых беларускіх часопісаў. Купіў на Арбаце аднатомнікі Я. Купалы і Я. Коласа на рускай мове. Мне здаецца, нашы класікі недалюблівалі адзін аднаго. Праўда, гэта «няпрыязнь» ніколі не перарастала ў канфлікт двух шляхціцаў — Міцкевіча і Славацкага. Праз год дваццаць будзе ў нас зусім іншая літаратура. Яна павінна прасеяцца праз аб'ектыўную крытыку. А то вельмі ж у нас шмат «неприкасаемых» халтуршчыкаў з рознымі ахоўнымі граматамі і пасадамі.

**21.IX.** Нядзеля. Памёр Міхась Ціханавіч Лынькоў. Гэта смерць усіх нас асіраціла. Трэба званіць Кандрату, Пімену, Петрусю... І не магу...

**13.X.** Зноў у Маскве. У СП юбілейны вечар С. Ясеніна, але я не змог пайсці, бо вельмі дрэнна сябе адчуваў. Прыдбаў у кніжным магазіне альбом рэпрадукцый К. Дунікоўскага, якога ў нас залічаюць да фармалістаў. Пабольш бы такіх фармалістаў!

**14.X.** На днях вярнуўся з Азербайджана. У Кубе неспадзявана падняўся ціск 120 на 220. Ледзь збілі ўколамі. І зараз яшчэ не магу прыйсці ў сябе. У маю адсутнасць вылучылі на Ленінскую прэмію мой апошні зборнік «Нарачанскія сосны». І дарэмна, бо зборнік гэты слабейшы, як папярэдні «Мой хлеб надзённы». І, агулам, лічу гэту задуму, ініцыятарам якой быў С. В. Марцалеў, безнадзейнай.

Пісьмо ад Федзі. Здохла карова на полі, аб'еўшыся бульбай. Трэба будзе памагчы яму набыць новую. Прыходзіў Лёня. Забраў на выстаўку свайго «Вандроўніка пад хвояй». Работа цікавая. Думаў, дома ўдасца крыху адпачыць, а тут безліч розных клапот і спраў. Заходзіў Язэп Семяжон. Расказваў пра сваю паездку ў Польшчу. Трэба ляцець у Арменію на вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння А. Ісаакяна.

**19.X.** Паміж песімістычнай і аптымістычнай ацэнкай сітуацыі на свеце і ў нас павінна быць яшчэ і рэалістычная. І мне часцей трэба яе трымацца.

Не магу спакойна глядзець, як у нас дома марнуецца чыстая папера. Першыя свае чатыры зборнікі я пісаў на нейкіх абрэзках, купленых па зніжанай цане ў віленскай фірме «Папер», што мясцілася на Завальнай вуліцы, побач з магазінам славутага «Зінгера» і складамі сельскагаспадарчых машын З. Нагродскага.

Нарэшце — пісьмо ад Міхала Забэйды. Жыве ён у нейкім абмежаваным свеце. Мо таму ў яго характары адчуваецца эгацэнтрызм і самазахапленне. Але хто з нас не хварэе на гэтыя хваробы? Самае галоўнае, што ён — непаўторны артыст. І гэта важней за ўсё.

**7.XII.** Заходзіў учора да нас Ражко. Крыўдзіцца на ўсіх, што не друкуюць яго ўспамінаў. Расказваў ён Любашы пра нейкага Іваноўскага, які нясе несусветную луху пра майго бацьку, якога, быццам, ён расстраляў. А Ражко яму і паверыў. Ёсць жа людзі, якім так і карціць некага ачарніць. Колькі пра мяне ходзіць чутак, што я горкі п'яніца, што на дачы нас абслугоўвае некалькі павароў і афіцыянтак. Нат Любаша, капаючыся ў агародзе, чула, як нейкія курортнікі гаварылі: «Бачыце, нат у выхадны дзень домработніцы не даюць адпачыць». А колькі розных расказваюць небыліц пра Купалу, Коласа, Крапіву. Ды амаль пра ўсіх пісьменнікаў, мастакоў... Галоўнае, калі пачынаеш пярэчыць гэтаму, — не вераць: «Ну, гэта вы заступаецеся за свайго брата. Мы лепш ведаем». І хоць працэнт п'яніц сярод прадстаўнікоў іншых прафесій — старшынь калгасаў, сельсаветаў і розных чыноўнікаў, якія без паўлітра не пастаўяць нават пячаткі, значна большы, слава ідзе пра пісьменнікаў: п'яніцы, гулякі, распутнікі.

**9.XII.** Ездзіў у Вілейскі лягас на паляванне, на якое запрасілі і мяне. Былі генеральныя консулы ПНР, ГДР, В. С. Смірноў, М. І. Дзялец і намеснік міністра лясной гаспадаркі У. П. Раманоўскі. Забілі двух ласёў і паранілі кабана, якога так і не знайшлі, бо было ўжо цёмна. Самае важнае — находзіўся і надыхаўся ў лесе пахамі смалы, прэлай лістоты і багунніку. Я і не знаў, што багуннік і зімой так моцна пахне. Мне ўдалося толькі раз стрэліць па параненым ласі.

Найбольшая ўдача выпала В. С. Смірнову, які паляваў пяцізарадным амерыканскім штуцарам..

**16.XII.** Патоп слоў больш страшны, як патоп біблійны. Ад яго шуму ўсе мы сталі глухімі і перасталі чуць адзін аднаго.

**29.XII.** Недзе чытаў, што вялікі гумарыст Бернард Шоу сімпатызаваў усім дыктатарам, а Кнут Гамсун і Г. Гаўптман — Гітлеру. Відаць, творчасць любога выдатнага пісьменніка не паддаецца поўнай расшыфроўцы. Пісаў жа А. С. Пушкін Вяземскаму: «Восхищаюсь храбростью поляков (1830—31 гг.)... Все это хорошо в поэтическом отношении. Но всё-таки их надобно задушить, и наша медлительность мучительна». А як тады выглядае яго дружба з А. Міцкевічам?

**31.XII.** Гартаю замежныя ілюстраваныя журналы, якія ўсё больш адводзяць месца рэкламе сэксу. Відаць, ён хутка ахопіць і наша мастацтва, кіно, літаратуру, і на наваготдняя ёлкі будзем вешаць другія цацкі. Бо як жа нам адставаць ад Еўропы? І тут не паможа ніякая цэнзура. Ацверазіць можа толькі яўны абсурд, да чаго мы не раз даходзілі і ў палітыцы, і ў іншых жыццёвых справах.

# 1985

**4.I.** Справы ў СП ускладняюцца. Патанаем у пустазвонстве, пасяджэннях, разважаннях і абмеркаваннях, пра што і як трэба пісаць. На што толькі марнуем час.

Штучнасць і пазёрства заўсёды вылазяць, як шыла з мяшка. Калісьці ў разгар спрэчкі Бялінскага і Герцэна гаспадыня запрасіла іх за стол. Бялінскі абурыўся, як можна садзіцца за стол, калі не вырашылі асноўнага пытання: ці існуе Бог?

**13.I.** Прачытаў харошую падборку вершаў Р. Барадуліна. Павіншаваў Пімена з вылучэннем яго кандыдатам у дэпутаты ВС БССР. З пісьменнікаў вылучаны і Н. С. Гілевіч. Гэтымі днямі Максім зноў едзе ў сваё Запаляр'е, у Інту. Амаль трое сутак будзе ў дарозе. Аказваецца, Флабер раней за Сталіна сказаў пра пісьменнікаў: «Пісьменнікі адказныя за чалавечыя душы». Адным словам — інжынеры.

**25.I.** Праслухаў апошнія паведамленні. Малеюць шанцы на мірнае жыццё на зямлі. Ды і лёс самой зямлі становіцца праблематычным.

**1.II.** Вечарам — у тэлевізары спартыўныя гульні, якія ўсё больш становяцца школай шавінізму.

Не помню, у каго вычытаў: «Гюго робіць з мухі слана, тады калі сапраўдны пісьменнік павінен рабіць наадварот».

**15.II.** Е. Вялюнскі піша, што ў «Музікальбрандэ» надрукаваны перакладзены на нямецкую мову мой верш і што ў Ірландыі Арнор Ганібальсон, які добра ведае польскую, рускую, украінскую і беларускую (!) мовы, збіраецца нешта перакласці з маіх вершаў. Цікавая звестка, толькі сёння мала яна мяне радуе.

**22.II.** Быў на вечары 50-годдзя Рыгора Барадуліна. Толькі, як і ўсе такія вечары, зацягнуўся амаль да поўначы. Добра, што Н. М. Мазай памагла мне сваёй машынай дабрацца дадому.

Увесь час стаіць марозная і снежная зіма, якая падчысціць усе нашы скупыя запасы кармоў у калгасах.

**15.III.** У сувязі з абмежаваннем лімітаў, якія выдзяляліся на будаўніцтва школ, мастоў, дарог, вельмі цяжка дабіцца ажыццяўлення наказаў выбаршчыкаў, хоць звяртаюся і пішу ў розныя інстанцыі. Часамі толькі ўдаецца сяму-таму палепшыць жыллёвыя ўмовы ці вырашыць нейкія дробныя справы.

Вострай праблемай стала знайсці некага на работу дворніка, санітара, грузчыка, чорнарабочага, а грамацеямі хоць гаць гаці.

**8.IV.** Часта нашы мемуарысты, пішучы пра некага свае ўспаміны, больш пішуць пра сябе, і гэтым адбілі ўсякую ахвоту іх чытаць.

А. Кузьнеўскі ў інтэрв'ю для «Жыцця Варшавы» на пытанне, над якой кнігай зараз працуе, адказаў: «Не маю часу, нічога не пішу. Стаю ў чэргах за туалетнай паперай...» Ну, гэта яшчэ не так дрэнна, калі пану Кузьнеўскаму ёсць патрэба ў туалетнай паперы. Бывае горш.

**10.IV.** Мне здаецца, А. Адамовіч перахваліў раман Э. Скобелева: «О, такой человек не дает погибнуть надежде», «Мы с ней всласть наболтались на родном языке», «Душензизер обнаружил какую-то погрешность в туалете жены, потому что разъяренным чутьем зашипел оскорбительные слова», «Откровенность мне может вылезти боком», «Женщина в натуральном виде... это прекрасно», «На вид обыкновенная змея, но прекрасно смотрится на сковородке»...! І так на кожнай старонцы. Мова рамана нагадвае некаторыя шаблонныя выступленні нашых дыпламатаў, у падрыхтоўцы тэкстаў якіх аўтар набіў руку, калі працаваў у Міністэрстве замежных спраў.

**12.IV.** А на Нарачы — званіла Соф'я Захараўна — зноў у іх дом залезлі былі хуліганы, павыламвалі дзверы. У наступную суботу яна з Куляшовай збіраюцца ехаць на ўсё лета.

**19.IV.** Сёння — Вялікдзень. Калісьці ў гэты дзень у Пількаўшчыне збіралася ўся наша сям'я — сям'я хлебаробаў. Трэба было б пад'ехаць і пакланіцца іх магілам.

Як ва ўсім мы спазняемся! Часта вядзем спрэчкі аб сучаснасці, якая даўно ўжо стала мінуўшчынай. Каштоўнейшай рысай нашай паэзіі з'яўляецца заземленасць, заглыбленасць у людскія справы. А бяда, што не навучыліся пісаць коратка, усе захапіліся шматслоўем. Яшчэ Гётэ пісаў: «Я, магчыма, быў бы вялікім паэтам, калі б мой язык не аказаўся такім нястрымным...»

А К. Крапіва крыўдаваў, што сын і нявестка пакідаюць яго аднаго і едуць на курорты. А чаму і не ехаць за дармовыя грошы?

**24.IV.** Бесталкова мінаюць дні за днямі. А. Кузьнеўскі слушна піша пра швейцарцаў. Яны «зразумелі, што не маюць сваіх сыр'явых рэсурсаў — мусяць выкарыстаць адзіны, які маюць, — свае мазгі і свае далоні».

**7.V.** Стомлены вярнуўся з урачыстага вечара. Стомлены і фізічна, і маральна. Як арганізатары канцэрта маглі не ўключыць у сваю праграму ніводнай беларускай песні, ніводнага верша?

**13.V.** Усваталі мяне ў журы кінафестывалю. Чорт ведае, адкуль бяруцца гэтыя розныя мерапрыемствы? У гэтых ж дні будзе яшчэ разглядацца і пытанне: як часопіс «Полымя» выконвае пастанову ЦК; будзе адзначацца 80-годдзе М. Шолахава і трэба збірацца ехаць на пасяджэнне камісіі па ахове прыроды ВС СССР... Набліжаецца юбілей Хлебнікава, якім, прызнацца, ніколі я не захапляўся.

**26. V.** Рэдакцыя «Смены» запрашае прыехаць на бяседу аб свабодным вершы. Адмовіўся. Хай аб гэтым спрачаюцца крытыкі. На гэту тэму я ўжо не раз выступаў і, агулам, лічу ўсё гэта пустой балбатнёй.

**27.V.** Пачалася кампанія супраць п'янства, у поспех якой верацъ хіба толькі нашы кіраўнікі. Рэдактары і галоўліт — згубіўшы ўсякае пачуццё рэальнасці — пачалі выкідаць з усіх твораў сучасных і нат класічных усё, што напамінае аб спрадвечным чартоўскім зеллі. Вось і пішы праўду!

**30.V.** «Бліжэй да жыцця!» Яшчэ Рансар у сваёй паэтыцы раіў вывучаць усе рамёствы. Гартаючы «Кабзара», перакананўся, як самы лепшы і дакладны пераклад бывае далёкі ад арыгінала. Беларускае: «Раве і стогне Днепр шырокі» і рускае «Ревет и стонет Днепр широкий» не маюць, не перадаюць магутнага гучання галоснага «э». У мяне заўсёды, калі слухаю гэту і песню, слёзы падступаюць да вачэй. Як цяжка на рубяжы дваццатага веку ўявіць нашу будучыню, бо яе, агулам, можа не быць.

**18.VI.** Сёння быў у М. М. Слюнькова Н. С. Гілевіч. Вярнуўся з ЦК акрылены. Відаць, там яго ўгаварылі застацца на сваёй пасадзе першага сакратара СП.

**1.VIII.** Збіраюся на Нарач. А то там адна цяжкахворая Любаша ваюе з унукамі. Апынуліся мы з ёй, старыя, у безвыхаднай сітуацыі. Калі звалімся з ног, не будзе каму і вады падаць.

**21.VIII.** Прачытаў Е. Пунда (Эзра Паўнда. — У. К.) і Эліёта ў польскіх перакладах. Гісторыя знае многа выдатных майстроў, якія былі людзьмі нікчэмнымі. І таму, знаючы аб іх прафашысцкай дзейнасці, «в минуты жизни роковые», мне цяжка даць аб'ектыўную ацэнку іх творчасці, хоць, меexcept, апошняе і вырашальнае слова застаецца за творчасцю (Гамсун, Гаўптман...).

У «Новом мире» — пісьмы М. Цвятаевай. Божа, што за сумбур!

**23.VIII.** Наглядаецца фемінізацыя некаторых прафесій, у тым ліку — і пісьменніцкай. У іх (жанчын) мацней гучаць мінорныя матывы ў лірыцы. Відаць, меў слушнасць Флабэр, кажучы, што, каб іх вылечыць ад суму, «патрэбен не ідэал, а справа, патрэбен мужчына, дзіцё, любоўнік».

**9.IX.** Не зважаючы на забарону, яшчэ больш пачалі на вёсках гнаць самагонку. Бо, як казаў наш пількаўскі сусед: «Каб з людзьмі жыць, трэба піць». І тут нічога не параіш. У адной нашай Краснаўцы працуе некалькі самагонных апаратаў.

**23.IX.** У «Голасе Радзімы» цікавы артыкул А. Траяноўскага пра лужычан, пра іх культуру. Піша, што ў выдавецкіх планах іх «Домовіны» — мой зборнік казак. Ніколі не спадзяваўся, што мой «Бай» завандруе аж на берагі Шпрэвы, да нашых лужыцкіх пабрацімаў.

**4.X.** Атрымаў ад Е. Вялюнскага ісландскі часопіс «Лесбок», у якім змешчаны адзін з маіх вершаў. Гэтымі днямі еду на сесію Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях. Вязу з сабой усю дакументацыю аб вылучэнні кандыдатам на Ленінскую прэмію В. Быкава. Ёсць надзея, што сёлета Дзяржаўныя прэміі могуць атрымаць В. Дашук за дакументальны фільм і тэатр — за спектакль «Радавыя» А. Дударава.

**20.X.** Вярнуўся з ясенінскіх урачыстасцяў Н. С. Гілевіч. Непрыемна, казаў, атрымалася з Р. Барадуліным, які павінен быў выступіць на вечары, а С. Міхалкоў даў слова Нілу, з якім таксама было дамоўлена. Чуваць, гром і маланкі абрушвае на сакратарыят і прэзідыум І. Шамякін за вылучэнне на Ленінскую прэмію В. Быкава.

Пыталася В. М. Шчадрына, ці змагу прыехаць на вечар Я. Райніса. Агулам, у нас, калі дазваляе здароўе і ты прыхільнік застольных бясед, можна нічога не рабіць, а толькі ездзіць і ездзіць, гасцяваць і гасцяваць, засядаць і засядаць у прэзідыумах... І гэта будзе залічвацца ў твой актыў начальствам больш як творчы дарабак.

**2.XII.** Трэці дзень ляжу ў лечкамісіі. Разам са мной С. А. Пілатовіч. Ляжу з забінтаванай нагой. Да ўсіх хвароб далучыўся яшчэ трамбафлебіт. Наведаў і А. Бембель, які ляжыць у суседняй палаце. Невясёлыя і ў яго справы.

**18.XII.** Сёння глядзеў мяне галоўны хірург аддзялення Я. А. Цалкішур. Адкуль у палешука такое прозвішча? Сэрца зусім разладзілася. Збіраюцца перавесці мяне ў рэанімацыю. Адно гэта слова кідае мяне ў жар. Шкада Любашы. Не мела яна за мной лёгкага жыцця. Неяк так склалася, што ніхто яе не мог замяніць ва ўсіх справах, не было каму ёй памагчы. А я — у сваіх няспынных раз'ездах, камандзіроўках.

**21.XII.** Відаць, месца нараджэння яшчэ не акрэслівае нацыянальную прыналежнасць мастака. Міцкевіч нарадзіўся ў Беларусі, Славацкі і Гоголь — на Украіне, Конрад — у Польшчы...

**25.XII.** Кансультаваў Г. І. Сідарэнка. Абнадзейвае, што яшчэ можна будзе жыць і працаваць. Прыпісаў: капельніцу, адэльфан, клафелін, цэланід (па 1/2), нітронг...

**Паводле: Максім Танк. Збор твораў. 10 том**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**25 ліпеня Міністэрства па надзвычайных сітуацыях адзначае сваё прафесійнае свята — Дзень пажарнай службы. З гэтай нагоды ля плошчы Перамогі на праспекце Незалежнасці прайшоў парад пажарных. Мінчукам прадэманстравалі тэхніку пажарных служб розных гадоў.**




НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

**Творчы віцебскі дуэт *StreetSkills* зрабіў падарунак Віцебску — новае графіці. На ім — выява Марка Шагала. Летась аўтараў судзілі за графіці Васіля Быкава на трансфарматарнай будцы ў Мінску. Шагал, дарэчы, з'явіўся на месцы, дзе раней быў намаляваны Дацэнт з фільма «Джэнтэльмены ўдачы».**



**Скарб, знойдзены ў раёне Ракава падчас археалагічных разведак на месцы будучага будаўніцтва 2-й Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі археолагамі Інстытута гісторыі НАН. Усяго было знойдзена 233 медныя соліды, вядомыя таксама як барацінкі. Хутчэй за ўсё, гэта звычайны кашалёк, які згубілі не раней за 1667 год. Ён праляжаў у зямлі мінімум 348 гадоў.**



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**Беларусы адсвяткавалі ў Дудутках угодкі Грунвальдскай бітвы. Бітва паміж злучаным войскам Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага з аднаго боку і войскам Тэўтонскага ордэна з другога боку адбылася 15 ліпеня 1410 года недалёка ад вёскі Грунвальд на тэрыторыі сучаснай Польшчы.**




**У Шклове ўсталявалі новы геральдычны знак — герб горада на 11-метровай стэле. Назва горада на ім напісаная толькі па-руску, для беларускай мовы месца не знайшлося.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Ты чаго плачаш?

— Мне шампунь вочкі шчыпле.

— Табе 28 гадоў.

— Па-твойму, ад гэтага вочкам менш балюча?

* * *

У ЦРУ прайшоў конкурс праектаў на тэму «Як разваліць Расею». Перамогварыянт: «Не перашкаджайце Пуціну».

* * *

Хлопец, запомні! Калі дзяўчына смяецца з усіх тваіх жартаў, у цябе сур'ёзныя праблемы — яна сабралася за цябе замуж.

* * *

— У вас ёсць рэкамендацыйны ліст?

— Так, вось, калі ласка.

— «Ён вельмі добры хлопчык, вазьміце яго на працу»... Што гэта за ліст такі?

— Ад мамы.

* * *

Айфон патрэбны хаця б для таго, каб пастаянна набываць да яго дроцік зарадкі.

* * *

— Мілая, чым гэта ад цябе так цудоўна пахне?

— Духамі, якія ты мне ўчора падарыў!

— Я табе не дарыў духі!

— Дарыў, дарыў! Паглядзі ў кашальку!

* * *

Самай вялікай сілай прыцягнення на свеце валодае падушка а 7-й раніцы.

## «НН» сто гадоў з вамі

**На станцыі Жыткавічы**, Мазырскага павета, Мінскай губерні 5 ліпеня быў такі выпадак: на адной пуцявой будцы было вяселле. А 1 гадзіне ночы госці разышліся. Адна кучка гасцей ішла па чыгунцы. Калі яны падходзілі пад станцыю на ўстрэчу ім ішоў ваенны поезд. Яны сышлі з тае пуціны на другую і не звярнулі ўвагі, што і па тэй пуці, на каторую яны зышлі, ішоў ззаду за імі паравоз. Не паспелі яны і ахнуць, калі аказаліся ўсе пад калёсамі паравоза. Зарэзала 8 душ, а двое пакалечыла, і іх павязлі ў Пінск у бальніцу.

**«НН». №28. 1915.**

**Пуцін: беларусы не нацыя.** Масква не губляе надзеі ў зручны момант пазбавіць Беларусь суверэнітэту. Раскрываецца таямніца перамоваў Пуціна і Лукашэнкі ў Завідаве. У.Пуцін, адказваючы на пытанні моладзі з нацыяналістычнага руху «Нашы», сказаў словы, якія могуць дорага каштаваць расійскай дыпламатыі: «І геапалітычна, і па вялікім рахунку ўвогуле мы — адна нацыя...»

**«НН». №28. 2005.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 28.07.2015.
Замова №2616.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

